
Мастацтва Мірaслава Хіліманюка → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Ці мова дзяржаўная... → 8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 42 (3205) Год LXII Беласток, 15 кастрычніка 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**У чацвер 5 кастрычніка ў беластоцкім кіно „Форум” адбылася прэзентацыя новага фільма Юрыя Каліны „Бежанцы 1915-1922”. Прозвішча аўтара стала ў мясцовай свядомасці брэндам, які асацыюецца з фільмамі пра наша найбольш хвалюючае мінулае. Не дзіва таму, што фільм хацела паглядзець мноства беластоцкай публікі. Фільм зрэалізаваны для тэлебачання Белсат, а базай, дзе праводзіліся рэканструкцыйныя здымкі, быў Музей сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы. Таму ў ліку найважнейшых гасцей былі дырэктар Белсата Агнешка Рамашэўская-Гузы ды дырэктар цеханавецкага музея Дарота Лапяк. Прысутнічалі таксама героі ранейшых фільмаў Юрыя Каліны ды даследчыкі бежанства нашага насельніцтва ў Расію ў час Першай сусветнай вайны.**

Фота з архіва Юрыя Каліны




# „Бежанцы” Юрыя Каліны

Фільм Юрыя Каліны, як мне здаецца, змястоўна ахапіў усе аспекты аграмаднай падзеі, якая закранула наша грамадства век таму. Ёсць тут успаміны жывых сведак бежанства, якіх Юрыю Каліне ўдалося яшчэ запісаць ужывую. Нямнога іх, таму іх аповеды дапаўняюць нашчадкі бежанцаў, у якіх памяці захаваліся ўспаміны продкаў. Пра бежанства расказваюць таксама даследчыкі тае падзеі — Яўген Мірановіч, Сяргей Токць, Віталь Карнялюк, Генадзь Семянчук і Уладзімір Ляхоўскі. Іх аналізы дапаўняе журналістка Анэта Прымака-Оніпік. Ёсць рэканструкцыя некаторых эпізодаў, ёсць фрагменты кінахронік стагадовай даўнасці...

Пасля фільма адбылося кароткае яго абмеркаванне, якое вёў Яраслаў Іванюк. І выказаў ён думку, што гэты фільм павінен быць свайго роду каяннем нас перад нашымі продкамі за тое, што мы не прыдалі належнай павагі таму вельмі цяжкаму і трагічнаму перыяду іх жыцця. Сам Юры Каліна падхапіў гэтую заўвагу, падмацоўваючы яе эпізодам са свайго дзяцінства, калі ён прывезеныя прабабуляй царскія грошы сакрэтна закапаў у скрыні, як таемны дзіцячы скарб. Пасля дванаццаці гадоў, пасталеўшы, прыпомніў, адкапаў, але той скарб скарысталі ўжо пражываючыя там жывінкі.

Яраслаў Іванюк дадаў, што бежанства доўгі час знаходзілася па-за ўвагай нашага грамадства. Стаўленне да падзеі змянілася ў 2015 годзе, калі паказаліся кніга Анэты Прымакі-Оніпік „Bieżeństwo 1915. Zapomniani uchodźcy” ды кніга Дарафея Фіёніка „Бежэнство. Дорога і повороты. 1915-1922”. Адбыліся прысвечаныя падзеі навуковыя канферэнцыі. Юры Каліна дадаў, што неацэнным быў выдадзены тыднёвікам „Ніва” зборнік некалькіх сот успамінаў бежанцаў — гэта найважнейшы пярвічны матэрыял, аўтэнтычны, які ў будучыні павінен стаць асновай далейшых гістарычных доследаў. І гэта, па сутнасці, усё, што было напісана на тэму бежанства. Польская гістарыяграфія не займалася гэтай тэмай, хаця, як падала Анэта Прымака-Оніпік у сваёй кнізе, у бежанства падалося 420 тысяч палякаў з межаў тагачаснай Расійскай Імперыі; гэта прыблізна столькі, колькі палякаў было пазней вывезена ў Сібір — пра гора сібіракоў слушна захоўваецца памяць, а пра парытэтную колькасць польскіх бежанцаў ціха. Гэтаксама і савецкая гістарыяграфія займалася апісаннем новага грамадскага ладу, партызанскіх подзвігаў, а для бежанства не хапіла месца. Шчаслівa, да нашага часу захавалася памяць у сем'ях, дзякуючы якой гэты фільм мог паўстаць; і за гэта Юры Каліна падзякаваў тым людзям, якія прынялі ўдзел у ягоным праекце. Дадаў далей, што першымі запісаў на плёнку сваіх аднавяскоўцаў, у тым ліку і сямейнікаў, звыш дваццаці гадоў таму.

З залы было пытанне пра бежанскі лёс мясцовага духавенства і лёс царкоўнай маёмасці. Юры Каліна прыгадаў, што духавенства ў той час было часткай царскай адміністрацыі і выконвала царскія загады. Яўген Міраповіч дадаў, што вярнулася каля сарака адсоткаў ранейшага мясцовага духавенства. Вывезеная маёмасць, у прынцыпе, асталася ў Расіі.

Разынкай прыведзеных у фільме даўніх кінахронік з'яўляецца эпізод з перасяленчага пункта ў Оршы; іншыя кінахронікі часу Кастрычніцкай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны агульна вядомыя. Гэты эпізод Юры Каліна знайшоў у архіўных фондах беларускага кіно, якія знаходзяцца ў Дзяржынску, даўнім Койданаве, недалёка Мінска. Параўноўваючы свае рэканструкцыі з гэтым матэрыялам, Юры Каліна сказаў, што яны „занадта прыхарошаныя”.

Цікавую заўвагу дадаў Міхал Артышэвіч пра трагічнае, насільнае выкіданне мясцовага насельніцтва. І прывёў прыклад вёскі Заборцы, якая была між Кляшчэлямі і Вулькай-Выганоўскай. Вяскоўцы не хацелі выязджаць у бежанства, але казакі прыехалі і спацыфікавалі вёску; і ніводзін яе жыхар ужо не вярнуўся... Да гэтага выказвання можна дадаць, што след па вёсцы астаўся — у *Геаграфічным слоўніку Каралеўства Польскага*: „Zaborce, wś, pow. bielski gub. grodzieńskiej, w 1 okr. pol., gm. Dubiażyn, o 27 w. od Bielska. W spisie własności ziemskiej gub. grodzieńskiej nie podana”...

У сваіх пафасных фільмах Юры Каліна не абмінае і запісаных ім весялейшых момантаў. У „Сейбіце” была жанчына, якая палезла на гару вешаць, але напалохаў яе адтуль нейкі шорах. У „Бежанцах” расказ пра на скорую руку зладжанае хрышчэнне пасля вяртання, калі хрышчаны хлапчук у разгары таінства ўхапіў хрысціцеля за бараду і не хацеў адпусціць...

Калі мова пра святара, не выпадае абмінуць нашага архімандрыта Гаўрыіла, які ў сваім выступленні станоўча выказаўся пра колішняе бежанства ў Расію, а адмоўна пра цяперашняе бежанства ў Еўропу; паводле яго апошняе толькі дзеля матэрыяльнай карысці. Як жа ж гэтае стаўленне супадае з евангельскай прытчай пра добрага самараніна: *На гэта сказаў Ісус: нейкі чалавек ішоў з Ерусаліма ў Ерыхон і нарваўся на разбойнікаў, якія знялі з яго вопратку, паранілі яго і пайшлі, пакінуўшы яго ледзь жывога. З нагоды нейкі святар ішоў тою дарогаю і, убачыўшы яго, прайшоў міма. Гэтак сама і лявіт, быўшы на тым месцы, падышоў, паглядзеў і прайшоў міма. А нейкі самаранін, праязджаючы, знайшоў яго і, убачыўшы яго, пашкадаваў, і падышоўшы, перавязаў яму раны, паліваючы алеем і вінам; і, пасадзіўшы яго на свайго асла, прывёз яго ў гасцініцу і клапаціўся пра яго; а на другі дзень, ад'язджаючы, дастаў два дынары, даў гаспадару гасцініцы і сказаў яму: паклапаціся пра яго; і калі патраціш больш, я, калі вярнуся, аддам табе.* Сённяшні наш святар гэтак жа прынцыповы, як і ў Ісусаў час дзве тысячы гадоў таму... Дарую тут згадку пра сацыяльнае навучанне Ісуса і пра краіну хрысціянскіх вартасцей — не да бежанства яны.

Калі мова пра Свяшчэннае Пісанне — другая яго кніга, пра бежанства Майсеевых ізраільцян з Егіпта, называецца ў лацінян менавіта Exodus. У Галівудзе тры гады таму быў зняты фільм пра біблейскае бежанства і менавіта пра яго можна сказаць, што ён „занадта прыхарошаны”. А фільм Юрыя Каліны вельмі праўдзівы, нават калі ў ім хлеб не чорны, толькі белы.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**





# Час новых дзяржаў

Сонечная актыўнасць узрасла, тэктанічныя пліты зрушыліся, клімат мяняецца, народы прыйшлі ў забурэнне і рух. Ёсць такая навуковая тэорыя, якая тлумачыць падзеі, што адбываюцца на нашай Зямлі, знешнімі фактарамі і ўплывам невядомых дагэтуль нам сіл. Не з'яўляючыся зацятым прыхільнікам гэтай тэорыі, абсалютна дапускаю, што так яно і ёсць. Наша планета сапраўды нагадвае адзін жывы арганізм, дзе ўсё звязана і, як казалі раней, узаемаабумоўлена. Вялікія перасяленні народаў дык дакладна былі звязаныя з кліматычнымі зменамі. А вось утварэнне новых дзяржаў праходзіла рознымі шляхамі — мірным аб'яднаннем ці раз'яднаннем, захопам альбо далучэннем розных зямель. Ніколі так не было, каб дзяржаўныя ўтварэнні былі настолькі ўстойлівымі, каб не мяняцца. Гінулі вялікія цывілізацыі і агромністыя імперыі, паўставалі новыя, потым надыходзіла іх чарга. І так праз стагоддзі і тысячагоддзі. Так што ў зменах дзяржаўных межаў ніякай глабальнай трагедыі няма. Першае, што трэба ўсвядоміць кожнаму чалавеку — у гэтым свеце ніколі не было, няма і дакладна не будзе справядлівасці. Прыкладам, хто ведае як рашыць зараз справядліва пытанне дзяржаўнасці курдаў? Думаю, што ніхто. Але куды падзецца цэламу народу, якога больш 10 мільёнаў і які раскіданы па тэрыторыях ажно некалькіх сумежных дзяржаў. Тое, што трэба знайсці зямлю для гэтага народа — ужо бясспрэчна, цяпер толькі пытанне ў тым, як уладкаваць гэтую новую дзяржаву на мапе свету. А якой яна будзе — залежыць ад многіх і розных фактараў.

У сітуацыі дачыненняў Барселоны і Мадрыда ўсё нібыта прасцей, але з іншага боку — нават складаней. Тое, што Каталонія хоча большай самастойнасці — зразумела, тое, што Іспанія не хоча драблення сваёй вялікай дзяржавы — таксама ясна. А сучасная дэмакратыя, нават у дваццаць першым стагоддзі пакуль не навучылася як удала вырашыць пытанне вялікай супярэчнасці міжнароднага права. Гэта калі ў супярэчнасць уваходзіць права дзяржаў на тэрытарыяльную цэласнасць і права народаў на самавызначэнне і адпаведна стварэнне сваёй дзяржавы. Ужо зразумела, што справядлівае рашэнне дасягнуць будзе надзвычай цяжка, тут абы ўдалося дасягнуць мірнае. Каталонцаў вінавацяць у сепаратызме і папулізме іх лідараў, цэнтральныя мадрыдскія ўлады — у імперскасці і антыдэмакратычнасці. Падзяліла каталонская праблематыка і беларусаў. На эмоцыях зрабіў я ў сваім фэйсбуку катэгарычны допіс, на што зрэагавалі па-рознаму. Адзін са старэйшых сяброў напісаў, што няма чаго нам туды лезці са сваім рылам, маўляў, трэба вырашаць свае беларускія праблемы, і ўвогуле ёсць закон, які нельга пераступаць. Іншыя пракаментавалі, што каталонскія трацкісты давядуць свой народ такім чынам да краху, так што, маўляў, „няма на іх Франка", які б хутка навёў парадак. Некаторыя нават параўналі сітуацыю з украінскім Крымам. Ну а многія падтрымалі думку, што дзеянні цэнтральнага ўрада сапраўды недапушчальныя. І тут я прыйшоў да другой простай высновы — нават у асяродку духоўна блізкіх людзей бывае рознае разуменне законнасці і тым больш справядлівасці.

Мая думка наконт Каталоніі такая: у такой сітуацыі мадрыдскі ўрад павінен быў памагчы забяспечыць дэмакратычнае галасаванне па пытанні незалежнасці, тым больш, што не ўвесь народ там за аддзяленне ад Іспаніі. Альбо яшчэ раней здзейсніць нейкія прэвентыўныя захады — прыкладам афіцыйна дазволіць стварыць футбольную дружыну Каталоніі з просьбай, каб яе адразу прызнала УЕФА. Гуляюць жа асобнымі зборнымі ўжо доўгія дзесяцігоддзі прадстаўнікі Вялікабрытаніі — Шатландыя, Уэльс, Паўночная Ірландыя — і ад гэтага толькі ўсе выйгралі. І яшчэ пару такіх элементаў незалежнасці, мераў, скіраваных на прываблівасць Мадрыда. Глядзіш — гадоў дваццаць ніхто і не захацеў бы аддзяляцца. Замест гэтага ўрад Рахоі выявіў сапраўдную цвердалобасць. Вырашэнне пытання сілавым метадам — непапраўная памылка. Нельга біць людзей за іх права выбіраць сваю будучыню. Увогуле, нельга біць нікога і ніколі, апрача сітуацыі нейтралізацыі і ліквідацыі тэрарыстаў. Па маладосці я таксама любіў дзяліць людзей і палітычныя плыні на „левых" і „правых". Зараз лічу такі падзел як мінімум павярхоўным, а часта і штучным. Трэба глядзець ледзь не кожнага чалавека, а тым больш палітыка ці грамадскага лідара, як вядома са старажытнай мудрасці, „па пладах яго".

Тое ж, што нішто не стаіць на сваім месцы і будуць непазбежна ствараецца новыя дзяржавы — не добра і не кепска, гэта закон гісторыі, які не адкінеш.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Беларускі конь

У Валожыне ў цэнтральнай Беларусі неапазнаны конь моцна ўкусіў аўтамабіль нераскрытай маркі. Асабістыя даныя ўладальніка аўтамабіля не былі апублікаваны. Міліцыя актыўна шукае злачынцу. Моцна зацікаўленыя ў яго арышце таксама беларускія спецслужбы. Бандыцкі апетыт нясе на сабе прыкметы палітычнай правакацыі. І незалежна ад таго, ці з'яўляецца ахвярай аўтамабіляў, скажам, расійскай ці заходняй вытворчасці, а яго ўладальніца — жонка бачнага прадстаўніка мясцовай улады або валожынскага бізнесу. Ну, конь, раслінна-едны від, павінен пасвіцца на сакавітых лугах, магчыма жэрці насенне збожжа, якога сёлета ў Беларусі шмат. Парковачнае месца не падыходзіць на луг для каня. Такім чынам рэвалюцыя, якую ён зрабіў у сваім меню, можа разглядацца як акт адчаю, але не ад голаду, толькі палітычны. І варта падкрэсліць, што беларускі конь уяўляе сабой у вышэйшай ступені народны элемент, каб не сказаць прама: да ядра нацыянальны. Таму, замест укусіць жалезны муштук, перакідваецца на расійскія або заходнія аўтамабілі. Нешта павінна быць на справе, што гэтае пытанне вельмі непакоіць беларускія ўлады.

Адчай беларускага каня непараўнальны з адчаем беларускіх патрыётаў, якія хочуць стварыць беларускамоўны ўніверсітэт у Мінску ALBARUTHENIA. Справа ў тым, што беларускія ўлады ўжо адмовіліся ад яго рэгістрацыі. І гэта ўсё. Сапраўды гэтак жа, як і ад ланцугоў для прывязання адчайнага каня. Але ўсё ж не на паляне, толькі на паркоўцы. У любым выпадку, больш далёкая дарога да ўніверсітэта, хоць сядзіба ўжо ёсць, а ў палітычным захапленні рыхтуецца да выкладання там прафесарская кадра. Для таго, каб універсітэт адкрыў свае дзверы, трэба 200-300 студэнтаў, так як першапачаткова меркавалася, павінен атрымаць яшчэ дазвол на вядзенне адукацыйнай дзейнасці. Пачынаючы ад органаў адукацыі і санітарыі. На дарозе афіцыйных адміністрацыйных працэдур тоіцца мноства падводных камянёў. Усе кідае ўлада, што не дзіўна, таму што ад яе капрызаў ці палітычнага разліку залежыць тое, ці беларускамоўны ўніверсітэт узнікне, і калі так, то з якім аб'ёмам адукацыйных кампетэнцый.

І ў гэтым месцы зноў кранаем пытанне інкрымінаванага каня, што наджаваў лёгкавы аўтамабіль. Калі ён надкусіў яго з-за патрыятычных меркаванняў, што можам адчытаць як волю беларускага народа, улады, хутчэй за ўсё, возьмуць пад увагу магчымасць стварэння ўніверсітэта. Ёсць штосьці на самой справе, таму што калі конь замест кусаць рахмана жалезную узду, кідаецца з зубамі на сталёвую машыну ў такім адчаі, што ўлады справядліва шукаюць у гэтым праяў сацыяльнага бунту. А той трэба душыць у зачатку, трымаць пад строгім кантролем. Калі пачын каня будзе кваліфікавацца як адчайны акт хуліганства, таксама дакладна гэтак жа будзе кваліфікавацца ініцыятыва ўзнікнення ўніверсітэта. І так лёгка скруціць лоб справе! Прыклад — забаронены ў 2004 годзе, таксама дзейнічаючы ў Мінску Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт, дзе большасць прадметаў выкладалася на беларускай мове, што сведчыць аб эфектыўнасці беларускіх улад у праполцы беларушчыны свайго народа. А конь, асабліва беларускі, мае чэрап «не ад парада». Той універсітэт пераехаў у Вільню і там па-ранейшаму знакаміта выконвае сваю патрыятычную і выхаваўчую службу ў якасці прыватнага ўніверсітэта.

Прыватнай вучэльняй, якая не залежыць ад улад, таксама мае быць Albaruthenia. Рэктарам мае быць старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны Алег Трусаў, доктар філасофіі. Варта нагадаць, што ён быў адным з заснавальнікаў Гуманітарнага ліцэя, таксама закрытага беларускімі ўладамі ў 2003 годзе. Ліцэй з тых часоў працягвае працаваць ва ўмовах напалову канспіратыўных. У цяперашні час ён зарэгістраваны ў Польшчы, чаго рэктар Трусаў шчыра шкадуе. Дык чаму не ў Беларусі?

Алег Трусаў сёння — конь які пасвіцца на паркоўцы аўтамабіля. Улады, з назову беларускія і фактычна поўнасцю зрусіфікаваныя, уважліва сочаць за тым, чым ён корміцца. Адно можна сказаць напэўна, што беларускі конь ведае, што засваяльнае для яго, а што не. Акрамя таго, аўтамабіль не смакуе інакш чым ланцуг. Яны выраблены са сталі.

Ну, а што з канём, якога міліцыя шукае па Беларусі? Не дай ён сябе злавіць, і дай Бог, ніколі не будзе злоўлены. Гэты конь шчыра беларускі.

Міраслаў ГРЫКА



## Сваімі вачыма

# Сямейная дапамога

Пахаладалі і задажджыліся кастрычніцкія ночы і дні. Ветранае надвор'е раз за разам нясе хмары, што сыплюць зацяжнымі лівянямі. Сырасць і смутак відавочныя не толькі ў прыродным кругазвароце, але маюць свой адбітак і ў чалавечых эмоцыях. Працяглыя прастуды, хваробы, нараканні на рэўматычныя і галаўныя болі — адны з першых, непрыемных прызнакаў, што восень не за гарамі і бязлітасна стараецца ўлезці ў нашы хаты і душы. Добра, што ў кватэрах ужо ўключанае абаграванне, таму вечаровы холад і безнадзейнае надвор'е ў цёплым пакоі за шклянкай гарбаты і пры добрай музыцы ці кіно не такія страшныя.

Калі размаўляю з сябрамі з Беларусі, у кватэрах якіх дагэтуль не ўключанае ацяпленне, то ад самой думкі пра такую сітуацыю пачынаюць ісці дрыжыкі па спіне і зуб не пападае на зуб. Калі дакінем да гэтага праблемы з гарачай вадою, то сямейных праблем, асабліва ў кватэрах з малымі дзецьмі, хоць адбаўляй. Знаёмы распавядаў, што ў гродзенскіх садках у сувязі з такой сітуацыяй колькасць працягла хворых дзяцей становіцца сур'ёзнай праблемай не толькі ў сямейным, але і грамадска-працоўным вымярэнні, бо ж бацькам прыходзіцца заставацца месяцамі дома і пільнаваць хворыя малюткі. А тут жа працоўныя абавязкі, страх перад звальненнем з прычыны доўгай адсутнасці.

Ведаю, таксама знаёмых у Польшчы, што менавіта зараз выбраліся ў турыстычныя паездкі па Беларусі і Украіне, не ўлічыўшы абагравальнай «спецыфікі» гэтых краін. Спачатку ратаваліся высокаградуснымі напоямі, потым аспірынам і ляскатаннем зубамі пад трыма коўдрамі ў халодным нумары. Там марылі як найхутчэй перасячы мяжу назад і трапіць у цёплы хатні ложак і да свайго лекара. Але ззаду галавы пасялілася ўжо ім думка, што пасля водпуску, хочаш не хочаш, але трэба вяртацца на працу. Такая пабыўка з адпачынкам не мела нічога супольнага і не заахвочвала да чарговых паездак у рамках бязвізавага рэжыму. «Без візы і без здароўя» — самы кароткі рэкламны лозунг восеньскага турызму да нашых суседзяў.

Тады, так як бывае ва ўсім свеце, ужо будучы хворымі, ідзем на працу, не жадаючы дапусціць да свядомасці шкоднасці такой блізарукай думкі наконт свайго здароўя, бо паслядоўнасці такіх дзеянняў для нашага арганізма з'яўляюцца нарастаючай праблемай. Ніжэйпадпісаны таксама залічваецца да катэгорыі тых мужчынскіх казлоў, якія лічаць, што найлепшы абарончы імунітэт для арганізма — шырокім кругом абмінаць усе медыцынскія ўстановы і абследаванні, паколькі ад іх здароўя не прыбывае, а толькі знаходзяцца чарговыя хваробы. Ну і ад такіх як я ёсць у рэшце рэшт ашчаднасці для сціплага бюджэту ахоў здароўя. Напэўна прыдадуцца тыя грошы больш патрабуючым хворым. Вось такая логіка самаапраўдання і самападману тых, каму з вялікімі праблемамі прыходзіцца знайсці дарогу да лекара.

Тады часта паратунак знаходзім у нашых мамах і татах, якія ўсё зробяць, каб аблегчыць праблемы сваіх дзяцей і дапамагчы любімым унучкам. Здаўна вядома і праверана, што бацькі, а асабліва мужчыны, так у сапраўднасці час і ахвоту для гульняў з дзецьмі адшукваюць у кантактах са сваімі ўнукамі і ўнучкамі. Прытым ведаю такіх дзядуляў, што вядуць паміж сабою доўгія гадзіны спрэчак наконт таго, ад каго больш радасці яны атрымліваюць: ад мужчынскага ці жаночага дзіцячага полу? Таксама каму з іх, паводле іхняга разумення свету, лягчэй будзе ў дарослым жыцці. От такія філасофска-бытавыя разважанні свежаспечаных дзядуляў наконт гендарнага пытання сённяшніх дзён. З маіх назіранняў вынікае, што справа іхніх поглядаў у большасці не мае аніякага дачынення да полу іхняга, непасрэднага выгадаванага патомства. Перш-наперш гэта адлюстраванне асабістых уяўленняў пра грамадскую справядлівасць і чалавечае шчасце. Найчасцей паўтараюць яны згодна, што менавіта ўнучкам хочуць перадаць і падарыць тое, чаго забыліся дзецям, паколькі ў штодзённай спешцы не хапіла ім часу і вытрымкі на паслядоўны, выхаваўчы працэс. І калі гляну на розныя дашкольныя ці школьныя мерапрыемствы, то бабуліна і дзядулева публіка — самы пэўны і верны кантынгент іх удзельнікаў. Без дзядуляў і бабуль цяжка жыць у сямейнай спадчыннасці.

Яўген ВАПА



# Ад вёскі і прыроды да абстрактнасці

**Гайнаўскі мастак Міраслаў Хіліманюк вучыўся маляванню на занятках у майстэрнях, карыстаўся парадамі гайнаўскіх прафесійных мастакоў Збігнева Будзынскага, Пятра Гагана і Данеля Грамацкага. Шматкратна перамагаў на Аглядах непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі. Яго працы прэзентаваліся на калектыўных выставах. У 2015 годзе першую персанальную экспазіцыю арганізавала яму Гарадская публічная бібліятэка ў Гайнаўцы. 29 верасня гэтага года ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы адкрылася яго персанальная выстава «Разнастайнасць Падляшша», на якой сабраны звыш трыццаці алейных, акрылавых, пастэльных, акварэльных і лінагравюрных прац. Асноўныя тэмы творчасці мастака — вёска Гайнаўшчыны з яе краявідамі ў мінулым, прырода Белавежскай пушчы і яе наваколля, нацюрморт і абстрактныя работы. Карціны ствараліся з 2012 года, калі Міраслаў Хіліманюк здабываў мастацкі вопыт у Майстэрні мастацкіх тэхнік Гайнаўскага белмузея. Выстава наладжана была ў рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва», які з 2011 года рэалізуе Гайнаўскі белмузей. Ужо 29 раз выдаў ён каталог, на гэты раз адведзены мастацтву Міраслава Хіліманюка, які ўваходзіць у састаў «Слоўніка беларускіх мастакоў» і рассылаецца ва ўсе школьныя і гмінныя бібліятэкі Гайнаўскага павета і найважнейшыя бібліятэкі Падляшша і Польшчы.**

— Я рабіў пераклад тэксту з польскай мовы на беларускую для двухмоўнага каталога. Працы Міраслава Хіліманюка зразумелыя, паказваюць, між іншым, нашу вёску ў мінулым, прыроду Белавежскай пушчы. На карцінах відаць руку добрага мастака, — сказаў настаўнік беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі і музейны дзеяч **Янка Карчэўскі**.

Дырэктар Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы **Тамаш Ціханюк** адзначыў здольнасці Міраслава Хіліманюка і каштоўнасць яго мастацкай творчасці.

— Рысаваць я пачаў будучы вучнем пачатковай школы, карыстаўся алоўкам, вугалем і пастэллю. Маляваць пачаў дзесяць гадоў таму назад, карыстаючыся парадамі гайнаўскіх мастакоў Збігнева Будзынскага, Пятра Гагана і Данеля Грамацкага. Стаў сам чытаць адпаведную літаратуру і вучыцца мастацтву. Многаму навучыўся ў ходзе заняткаў у Майстэрні мастацкіх тэхнік, якую ў Беларускім музеі вядзе Данель Грамацкі, а таксама на мастацкіх занятках у Клубе мастака-аматара «Старт» у Гайнаўскім доме культуры, якія вядзе Зінаіда Якуць. Пачаў я маляваць рэалістычныя краявіды колішняй вёскі, бо гэта мяне цікавіла. Я рашыўся паказаць на карцінах тое, што бачыў у дзяцінстве, — патлумачыў **Міраслаў Хіліманюк**.

І сапраўды снапоў збожжа састаўленых у мыдлі, ці вазоў загружаных сенам цяпер ужо не ўбачым. Першыя ўзнагароды ў катэгорыі жывапісу на Аглядзе непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі Міраслаў Хіліманюк здабыў у 2012 і 2014 гадах. Іншыя ўзнагароды атрымліваў падчас гэтага конкурсу ў 2013 і 2016 гадах, а ў 2016 годзе атрымаў вылучэнне на Аглядзе аматарскай мастацкай творчасці Падляшскага ваяводства.

— Наша бібліятэка ў 2015 годзе арганізавала Міраславу Хіліманюку персанальную выставу. З гэтага часу паявіліся ў яго новыя цікавыя працы, якія варта паглядзець, — сказала **Ала Грыц**, дырэктар Гарадской публічнай бібліятэкі імя доктара Тадэвуша Ракавецкага ў Гайнаўцы.



Працы Міраслава Хіліманюка прэзентаваліся таксама на калектыўных выставах у Гайнаўскім белмузеі і Гайнаўскім доме культуры. Частка яго работ паказвалася ў гэтым годзе на асобнай выставе «Пушча» ў Надляснictве Гайнаўка. Мастацкія работы Міраслава Хіліманюка, выпускніка факультэтаў механічнага і кіравання Беластоцкага політэхнічнага інстытута ды юрыдычнага факультэта Універсітэта ў Беластоку, знаходзяцца ў калекцыях Гайнаўскага белмузея і аматараў мастацтва ў Гайнаўцы, Беластоку, Варшаве і Мюнхене.

— Краявідамі колішняй нашай вёскі, бачнымі на карцінах, якія мне асабліва падабаюцца, праілюстравана кніжка «Наша мова», якую мы з Міраславам Хіліманюком супольна выдалі. Яго рысункі ў кнізе прадстаўляюць даўнія заняткі і прылады працы, пра якія мы пішам. Бацькі мастака родам з Крыўца. Краявіды з наваколля гэтай вёскі адлюстраваны на яго працах, — заявіў **Міраслаў Аўксянцюк**.

— Мне таксама вельмі блізкія прэзентаваныя на карцінах вясковыя краявіды, якія я ахвотна фатаграфаваў, а якіх ужо вельмі мала засталося ў нязмененым выглядзе. Не ўбачым ужо на палях збожжа састаўленага ў мыдлі або ляшкі. Мала захавалася даўніх вясковых хат, не перапобленых на больш сучасны лад. Цікавыя таксама партрэты тадышніх вяскоўцаў. Міраслаў Хіліманюк ма-майстэрску карыстаецца колерамі і ўмела паказвае цень на сваіх працах, што добра сведчыць аб яго варштаце працы. Мне цікавая прырода Белавежскай пушчы і цэлай Гайнаўшчыны, якую бачым на выставе. Аднак я пушчанскую прыроду паказваю на фатаграфіях крыху інакш, чым гэта робіць на сваіх работах Міраслаў Хіліманюк, які малюе перш за ўсё натуральны лес, — сказаў фатограф **Уладзіслаў Завадскі**.

Міраслаў многа малюе, калі ў яго ёсць натхненне, а адкладвае пэндзаль, калі паяўляюцца нейкія праблемы, — заявіла жонка мастака **Галіна Хіліманюк**.

Сам жывапісец прызнаўся, што пачынае маляваць восенню і канчае вясной, робячы перапынак на летні адпачынак.

— Важным для мяне было маляванне прыроды Белавежскай пушчы і наваколля Гайнаўкі, нацюрморт, але з часам пачаў я адыходзіць у бок абстрактнасці. На абстрактных працах магу прадставіць больш сваіх эмоцый і перажыванняў. Магу таксама весці дыялог з гледачом, які па-свойму будзе ўспрымаць мае абстрактныя работы. Зараз штораз больш паглыбляюся ў абстрактнасць і думаю, што ў маёй творчасці будзе яна займаць яшчэ больш месца, — сказаў Міраслаў Хіліманюк і дадаў, што толькі гадоў дзесяць таму стаў маляваць алейныя і акрылавыя карціны. Пазней навучыўся выконваць графіку, перш за ўсё лінагравюру, стаў таксама займацца акварэллю і ў гэтых тэхніках надалей хоча разгортваць свае ўмеласці.

— Праект «Беларускі алфавіт мастацтва», у рамках якога арганізаваная сённяшняя выстава, накіраваны да беларусаў і прамуе іх мастацтва на Падляшша і цэлую Польшчу. У Міраслава Хіліманюка багатыя творчыя напрацоўкі і таму мы рашылі арганізаваць яму персанальную выставу, да якой рыхтаваліся два гады. На выставе бачна разнароднасць яго творчасці, якая паказвае Падляшша, перш за ўсё Гайнаўшчыну, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк.

— Міраслаў Хіліманюк пачынаў з рысавання, а пасля стаў маляваць. Многаму ён навучыўся ў Майстэрні мастацкіх тэхнік пры белмузеі. Ён паслядоўна і ўпарта імкнецца паглыбляць тэарэтычныя веды па мастацтве і ўмела разгортвае свае практычныя ўмеласці ў гэтай галіне. Мастак карыстаецца багатай палітрай колераў. Яго краявіды зачароўваюць спакоем і нават меланхоліяй. Асаблівай увагі заслугоўваюць яго алейныя і акрылавыя працы з вясковымі краявідамі і прыродай. Відаць на выставе цікавую лінагравюру. Мастак добра сябе адчувае, выконваючы акварэльныя работы. Ён адкрыты на новыя тэхнікі і не баіцца эксперыментатарства. Перш за ўсё шукае сваёй дарогі ў жывапісе. Апошнім часам пайшоў у напрамку абстрактнасці, але ў гэтым выпадку ён яшчэ ў пачатку дарогі, — гаварыла гісторык мастацтва, супрацоўніца Гайнаўскага белмузея Агнешка Ціханюк. — Праект «Беларускі алфавіт мастацтва» мы рэалізуем з 2011 года і ўжо 29 раз выдалі каталог, на гэты раз мастацтва Міраслава Хіліманюка, які ўваходзіць у састаў «Слоўніка беларускіх мастакоў».

Рассылаюцца гэтыя каталогі ва ўсе школьныя і гмінныя бібліятэкі Гайнаўскага павета і найважнейшыя бібліятэкі Падляшша і Польшчы. Каталог трапляе, між іншым, у Нацыянальную бібліятэку ў Варшаве ды бібліятэкі Варшаўскага і Ягелонскага ўніверсітэтаў.

— Мы са спадаром Міраславам займаемся ў Майстэрні мастацкіх тэхнік, якую ў белмузеі вядзе Данель Грамацкі, таму прыйшлі паглядзець на выставу работ нашага сябра, — заявілі **Яўгенія Маліноўская** і **Тамара Кердалевіч**, якой персанальная выстава была арганізавана ў белмузеі ў мінулым годзе.

На цікавыя краявіды на працах Міраслава Хіліманюка звярнулі ўвагу Славамір Кулік, які любіць маляваць і фатаграфаваць і Марыя Балтрамюк, былая настаўніца. Агнешка Ціханюк праінфармавала, што Гайнаўскі белмузей купляе мастацкія працы (алейныя карціны, жывапіс, графіку, рысункі, скульптуру, фатаграфіі) беларусаў, якім выдадзены былі каталогі ў рамках «Слоўніка беларускіх мастакоў».

— Сабралі мы ўжо звыш сотні мастацкіх работ. Састаўляюць яны мастацкую галерэю белмузея. Плануем паказваць іх на тэматычных выставах, прымеркаваных да паасобных відаў мастацтва, — удакладніла **Агнешка Ціханюк**.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Дэмаграфія Нараўчанскай гміны

Зараз з кожным годам у Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета ўсё менш і менш жыхароў. Цяпер яна налічвае 3714 жыхароў. Найбольшая вёска Нараўка налічвае 872 чалавекі. У Семяноўцы пражывае 391 асоба, у Старым Ляўкове — 331, у Новым Ляўкове — 209, у Скупаве — 191, у Міклашэве — 171, у Плянце — 149, у Тарнопалі — 129, у Лешуках — 113 і ў Альхоўцы — 99.

Ніжэй сотні налічваюць вёскі Ахрымы — 90, Свінарої — 87, Заблотчына і Стачок — па 70, Старое Масева — 62, Гушчэвіна — 59, Баб'я Гара — 54, Лесна — 50, Міхнаўка — 49, Новая Лука і Янова — па 45, Новае Масева — 36 , Грушкі — 33, Падляўкова (Галубы) — 32, Гарадзіска — 31, Капіташчына — 30, Пасекі — 29, Слабодка — 24, Бярнацкі Мост — 23 ды Крыніца і Мінкоўка (Біглюкі) — па 20.

Найменшыя паселішчы ў гміне гэта Семенякоўшчына (Мядзвядзі) — яна налічвае 17 жыхароў, Сушчы Барок (Дзедзічы і Сухадолы) — 16, Новіны і Парослае — па 12, Забрады — 10, Цярэмкі — 9, Замошша — 6, Баравыя — 6 і Ланчына — 5 ды па двух жыхароў маюць Гнілец і Лазовае.

Паменшала жыхароў у вёсках Альхоўка, Ахрымы, Міхнаўка, Баб'я Гара, Нараўка (у кожнай з іх на 6 чалавек) і Семяноўка (на 10 чалавек) ды пабольшала на 2-3 жыхароў у вёсках Лесна , Новае Ляўкова, Тарнопаль і Семенякоўшчына (Мядзвядзі).

Сёлета Ніне Янцэвіч са Скупава споўнілася 100 гадоў жыцця. Спадарства Галіна і Міхал Трусевічы з Міклашэва ды Вольга і Павел Леўшы з Нараўкі ў гэтым годзе святкуюць 60-годдзе шлюбнага сужыцця. Спраўлялі яны не залатыя, а ўжо дыяментавыя вяселлі. Юбілярам зычым усяго найлепшага, перш за ўсё моцнага здароўя, поспехаў і доўгіх гадоў жыцця.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Патрыятызм па-польску

Гэты загаловак я не выдумаў, захацеўшы ў «Ніве» выказацца ў адной трагічнай справе, а толькі жыўцом «зрэзаў» з кніжкі пані Крыстыны Бадуркі-Рытэль «Patriotyzm po polsku», якой хачу сардэчна падзякаваць за такі вялікі падарунак.

Пісаць доўга не буду, бо гэта нешта апошняе ў маім жыцці. Але хто набудзе гэтую кніжку, дык згодзіцца з тым, што гэта сапраўды Вялікая пісьменніца і яе магутная праца.

Я не прабую мяшацца сюды з пробай скарачэння, але гэта не мая мэта і магчымасць, але займуся кароценькай справай, якую глыбокапаважаная пані Крыстына назвала, напішу папольску: «Mój ojciec był głupcem! Перайма́ўся лёсам бедных людзей вёскі, галоднымі, хворымі, пакалечанымі вайной дзеткамі. Пасля роспуску АК аддаў ружжо і стаў першым начальнікам гміны Стэрдынь. Меў намер арганізаваць вясковыя школы з падкормліваннем дзяцей, лячэбніцы, бібліятэкі, бо заўважыў, што гэта вельмі важна. Чаму не астаўся «ў лесе» пасля вайны, каб ваяваць за «непадлеглую»?

Павінен быў паліць вясковыя хаты, разам з дзецьмі і старэчамі, як «Буры», «Саколік», «Борута», «Рэкін», «Барташ», «Млот» ці «Лупашка». Кожнага першага сакавіка меў бы сваё свята, як жаўнер выкляты, а мы — ягоныя дзеці, мелі б помнік бацькі, героя, патрыёта, абаронцы каталіцкай веры, пры якім знакі пашаны — голды — складалі б дзяржаўныя і касцельныя саноўнікі — dostojnicy.

Вось вам патрыятызм па-польску!

**Васіль ПЕТРУЧУК**

# Верны ніўскі чытач



**Канстанцін ЯРАШУК** — ураджэнец Новін Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета — шматгадовы верны чытач „Нівы". Сама менш дзесяць гадоў важу я яму наш беларускі часопіс у яго родную невялікую вёску Новіны ў салэцтве Міхнаўка. Зараз, восенню, грыбнікі ездзяць сюды ў лес па баравікі, рыжыкі і зялёнкі.

Спадару Канстанціну 78 гадоў. Гэта ветлівы жыццярадасны чалавек. З ім мілая кожная сустрэча. Пры нагодзе кожнай з іх мой суразмоўца прадэкламуе мне новы верш або прымаўку. Ён іх не запісвае, але захоўвае ў памяці. Прыгадаю некаторыя радкі з яго верша пад загалоўкам „Родны куток":

Цвіці, красуйся родная мова,
Белавежская пушча, нівы і палі,
Каб навекі наша слова
Было чуткое на зямлі.

Ды далей:

Усе мы прасцяцкія людзі
Ад душы клятву кладзем:
З родным словам нарадзіліс,
З родным словам і памрэм.

Спадар Канстанцін кажа так:

— Я працаваў, між іншым, пажарнікам на нафтабазе каля Заблотчыны, рабіў на чыгунцы, рабіў у „кулку" ў Новым Ляўкове за стаража, у лесе папацягнуў пілою, дзяжурыў у г. зв. дзяжурцы ў браме керамічнай фабрыкі ў Старым Ляўкове, многа гадоў я вёў даволі вялікую пасеку ў садку ў агародзе каля дому. А калі чалавек працуе, то зараз яму думкі прыходзяць. А без занятку то чалавек нічога не думае. І так пачаў я складаць вершы.

Вершы спадар Канстанцін складае на аснове навеяных думак перш-наперш пра родны куток:

Вось зямлю гэтую я называю
Роднай бацькоўскай зямлёй
І аддаў бы ўсё што маю,
Каб не растацца мне з табой.

Верш „Родны куток" быў надрукаваны ў „Ніве" № 46 ад 17 лістапада 2013 года. У тым жа нумары пра Канстанціна Ярашука змястоўны артыкул напісаў Аляксандр Вярбіцкі.

Канстанцін Ярашук з зацікаўленнем чытае кожны нумар „Нівы" і не расстаецца з ёю. Некаторыя экземпляры роднага часопіса беражліва захоўвае. Жадаем спадару Канстанціну добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцця і плёну на літаратурнай ніве.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Польска-беларуская філатэлістычная выстаўка

У Чаромхаўскім доме культуры 6 верасня прайшоў вернісаж Маладзёжнай польска-беларускай філатэлістычнай выстаўкі пад загалоўкам «111 гадоў Вялікай чыгуначнай магістралі Седльцы — Балагое". Арганізатарамі выстаўкі былі Маладзёжны гурток Саюза польскіх філатэлістаў у Чаромсе, праўленне Варшаўскага акруговага СПФ, Агульнапольскае таварыства «Прыязны транспарт» у Чаромсе, Гмінная ўправа ў Чаромсе, ГОК і Польская пошта. Ганаровы патранат над выстаўкай узяў Падляшскі ваявода Багдан Пашкоўскі і маршалак Падляшскага ваяводства Ежы Ляшчынскі. Ганаровы камітэт складалі старшыня СПФ Генрык Монкас, прадстаўнікі самаўрадаў Седльцаў і Беластока ды гмін Нараўка, Гайнаўка, Пшасмыкі, Плятэраў, Сарнакі, Кляшчэлі і Чаромха. Камісарам маладзёжнай філатэлістычнай выстаўкі быў Марцін Купрыцюк, а старшынёю Арганізацыйнага камітэта — Януш Ліпінскі. На выстаўцы прэзентаваліся 53 экспаненты з шасці айчынных акруг (Быдгашч, Кашалін, Кельцы, Варшава, Валбжых і Вроцлаў) і трох з Беларусі (Мінск, Гродна і Брэст).

Вернісаж пачаўся ў 12 гадзін з прывітання гасцей, затым прафесар Адам Дабраньскі расказаў гісторыю пабудовы вялікай чыгуначнай магістралі Седльцы — Балагое.

— Пабудова царскімі ўладамі праектавалася на шасцідзясятыя гады XIX стагоддзя, а пачалася ў 1902 годзе. Будова раздзелена была на два адрэзкі: Балагое — Полацк і Полацк — Седльцы. На рэалізацыю задачы Францыя дала Расеі дзвесце мільёнаў рублёў крэдыту. Будова адрэзка Седльцы — Полацк праводзілася ў 1902-1907 гадах. Работы спазняліся. Часовы рух таварных і пасажырскіх цягнікоў пачаўся ў студзені 1906 года. 25 красавіка 1906 года афіцыйна была здадзена ў карыстанне лінія Андрэевічы каля Ваўкавыска — Седльцы.



Леанід Турын уручае сувеніры Марціну Купрыцюку

З Седлец лінія пралягала праз станцыі Пшыморды, Плятэрова, Нурэц, Чаромха, Гайнаўка, Нараўка і Свіслач. Лінія Седльцы — Полацк па планіроўцы павінна была крыжавацца з Брэсцка-Граеўскай лініяй у Высокім і ў Кляшчэлях, але райцы з Кляшэляў не пагадзіліся. У выніку скрыжаванне спраектаванае было ў чыстым полі на тэрыторыі фальварка Ажарова. Гэта і быў пачатак узнікнення станцыі Чаромха — чацвёртага спалучэння Польшчы з перыферыямі цэнтральнай Расеі.

У мастацкай частцы выступіў дзіцячы калектыў «Гілочка», затым была адкрыта выстаўка. Працавала Польская пошта з адмысловым штампам. Можна было штампаваць пісьмы і абмяняць маркі. Былі ўзнагароды заслужаным філатэлістам. Адмысловую атрымаў Марцін Купрыцюк ад старшыні Беларускага саюза філатэлістаў з Мінска Леаніда Турына — вышываны ручнік, кніжка і пакет для самых маладых філатэлістаў з маркамі і адмысловымі буклетамі. Гэтыя падарункі спансаравала Брэсцкая акруга Брэсцкіх філатэлістаў. Пакет для самага малога філатэліста быў перададзены ў Польшчу.

Кожны з экспанентаў і запрошаных гасцей атрымаў залаты адмысловы значок з каталогам выстаўкі. Мерапрыемства закончылася супольным пачастункам пры каве і гарбаце. Выстаўка прэзентавалася да 9 верасня і ў гэты ж дзень былі абвешчаны вынікі конкурсу. Асноўную ўзнагароду Гран-пры выстаўкі атрымаў Артур Кульгаўчык з Чаромхі за экспанат «Малы даведнік неабавязкова малога філатэліста». Дыпломы раўнаважныя вялікаму пазалочанаму медалю атрымалі Артур Кульгаўчык, Марыя Тарасюк, Альжбета Супронюк. Упершыню экспанат «Над берагам Балтыйскага мора» выставіў Себастыян Казак і атрымаў дыплом раўнаважны бронзаваму медалю.

Тэкст і фота **Уладзіміра СІДАРУКА**

# Немагчыма забыць

Здымак Таццяны з моладасці

Пісьменніца, мастачка і філасофка Тамара Болдак-Яноўская не мае праблем са сваім вясковым паходжаннем. Каб у гэтым пераканацца, дастаткова ўзяць у рукі любы нумар «Часопіса» і прачытаць адзін з яе фельетонаў. Пра вясковыя мудрасці гаварылася шмат у час апошняга «Нараю» — літаратурна-мастацкай сустрэчы ў роднай хаце Тамары. Там пачула я пра Таццяну — апошнюю старажылку Нарэек, сувязную паміж прошлым і сённяшнім, паміж тут і там.

Таццяна Пацкевіч з дому Жукоўская нарадзілася ў далёкім 1923 годзе. Дзякуй Богу добра выхавала сваіх дзяцей. Дачка — фармацэўтка, выйшла замуж у Гарадок, а сын, таксама вучаны, завяршыўшы беластоцкую кар'еру, вярнуўся дахаты. Цяпер з любасцю малоціць цэпам уласныя, маляўнічыя загоны на канцы вёскі, пад крыжам. Сцяблінцы не дарує. Нічога не змарнуе. У хату Пацкевічаў папала я позні летам. З гэтага візіту асабліва запамятаўся мне туалет. Чысцюсенькі. Цэлы ў шакаладнай глазуры і яшчэ цёплых ад карыстання пчалярскіх аксесуарах. І той незвычайны пах быццам з фірменных крам беларускай фабрыкі шакаладу «Камунарка». Нідзе больш такога салодкага паху я не пачула.

Размову пачалі мы з Тамары.

— Яна з маёй дачкой у школу хадзіла, — успамінае Таццяна.

На гэтым этапе нашага знаёмства Таццяна ўпарта трымаецца польскай мовы.

Апрача нарэйскага «Нараю» Таццяну і Тамару спалучае яшчэ асаблівая татарская жаночая прыгожасць — характэрныя крыху касыя вочы і выдатныя скулы. Наконт валасоў не ведаю, таму што ў Таццяны яны пад хусткай, а ў Тамары, наколькі помню, пад фарбай.

— Я не татарка, — пярэчыць Таццяна, пачуўшы маю заўвагу. — Я са Свіслачан паходжу.

Свіслачаны асацыююцца Таццяне толькі з рознымі відамі бяды. Сярод іх самае жахлівае — бежанства.

Яе маці, Альжбета, паехала ў няшчаснае бежанства ўжо па шлюбе, з бабуляй і траімі малымі дзецьмі, у тым ліку з наймалодшым, яшчэ грудным. Сем гадоў пражылі ў бежанстве. Дзе жылі, дакладна Таццяна ўжо не помніць. Ведае толькі, што было гэта вельмі далёка. Здзіўляе дэталёвасць, з якой апісвае мне ўмовы тамашняга жыцця. Яе ж яшчэ на свеце не было. Сведчыць гэта пра надзвычай добрыя адносіны паміж сямейнікамі, пра нямодную сёння радасць ад супольнага жыцця.

Можа вывезлі іх у стэпы Казахстана? Вядома, што не было там дрэў і хату прыйшлося абаграваць гноем. Мабыць, хата гэта не зусім адпаведнае слова. Чума, вандроўная мазанка, якую выпляталі са знойдзенай недзе лазы. Зверху і ўсярэдзіне лазу абмазвалі глінай. Падлога была таксама гліняная. І яшчэ дыні. Шмат іх там спажывалі, асабліва семачак. Хто б куды не адпраўляўся, заўсёды браў у кішэнь семачкі.

Таня нарэшце пераходзіць на родную мову.

Бацьку, Паўла, на вайну прызвалі. Першую сусветную. У палон папаўся, да немцаў. Забралі яму боты і босым загадалі капаць зямлю, нейкія лугі асушваць. Па калені ў вадзе. Дзень у дзень.

А пасля гэты Ленін са Сталіным. Адны ішлі да чырвоных, іншыя да белых. Сын супраць бацькі, брат супраць брата.

— Такое двайное бел-чырвонае права, — заўважае Таццяна.

Рэвалюцыя выгнала Альжбету назад дахаты. Апавядала пасля, як па дарозе людзі быццам мухі ад тыфу падалі. На кожнай станцыі нейкага трупа з поезда выкідалі.

Вярнуўшыся ў Свіслачаны, маці прыйшлося адной карміць цэлую сям'ю. Шмат дапамагала найстарэйшая, ужо пятнаццацігадовая дачка. Бацька Таццяны — прымак, таксама вярнуўся са свайго палону, але карысці ад яго вялікай не было. Тры з палавінай апошніх гадоў свайго кароткага жыцця прасядзеў з хворымі нагамі на печы. Маці рабіла што магла, каб яго вылечыць, вазіла да дактароў у Гародню і Беласток. Толькі грошы патраціла. Але ўсё-такі нейкая карысць ад Паўла паявілася. Хаця хворы, але яшчэ двое дзяцей пристараўся. У іх ліку была і Таццяна. Аказалася гэта вялікім паратункам Альжбеце — адзінай кампаніяй на цэлае астатняе жыццё. Бацька, паміраючы, забраў з сабой яшчэ бабулю і тры старэйшыя дачкі. Памерлі яны ад тыфу, які праследаваў сям'ю яшчэ з часоў бежанства. У адным годзе Альжбета выправіла пяць пахаванняў.

Трывалы след на псіхіцы Таццяны пакінуў перш за ўсё інцыдэнт з бацюшкам. Можна зразумець хваробу, смерць, але такіх нялюдскіх паводзін успрыняць немагчыма.

— Я па сёння ненавіджу бацюшкаў, — прызнаецца. — У хату ўпускаю, але не магу забыць.

За кожнае пахаванне прыйшлося Альжбеце плаціць. Не было змілавання, як кажуць, «business is business». Пазычала ад добрых людзей, сваякоў. На апошняе пахаванне сабрала толькі трыццаць злотых. Бацюшка браў трыццаць два, без ніякіх скідак. Разгневаны, скінуў грошы са стала. Цяжкія манеты рассыпаліся па падлозе.

— І я сабе падумала, — кажа Таццяна, — чаму ж гэта мама тых грошай не пазбірала і назад не ўзяла.

* * *

Не ведаю ці сын спадарыні Таццяны частуе бацюшкаў сваім самым смачным у свеце мёдам, але мне слоічак падараваў.

Іаанна ЧАБАН

# Пра сухастоіны





Леташнім летам прайшоўся я па Пушчы ад Падбаравіскаў да Капітаншчыны. Не парадаваў мяне тадышні від Пушчы, знявечанай абяскроўленымі елкамі, значыць пазбаўленымі сваіх найважнейшых органаў дрэвамі. Елачныя сухастоі стваралі ўражанне экалагічнай катастрофы. А сёлета адправіўся я байкам, з боку Альховай Кладкі ў бок Падляўкова; можна сказаць, што паралельнай дарогай, аддаленай раптам ад мінулагодняй на нейкіх пяць кіламетраў.

Цяпер Пушча выглядае інакш. Не відаць ужо было ўсохлых елачных стаўбуноў. За Альховай Кладкай паказаліся месцы, усланыя засохлай елачнай карой — там былі складваны ствалы памерлых дрэў, якія цяпер адтуль прыбраны. Далей у лесе, з абодвух бакоў Барначчыны пры лясной дарозе там і сям стаялі тэрыконы яловых бярвенняў, бадай двухметровай даўжыні, гатовыя да вывазкі. А сама Пушча выглядала прыстойна, быццам яе не кранула ніякая катастрофа.

Гартаю кніжку эсэ беларускага фалькларыста Фёдара Янкоўскага. Піша ён: „Усе мы — Васілі і Базылі, Змітракі і Паўлюкі, Алесі і Стасі, Петрусі і Петрыкі — пазнавалі, ідучы па лесе: гэта — *сухастоіна*. Памерла дрэва, неспілаванае, нясечанае і непадсечанае. Яно — на пні — падсохла ці нават усохлася, а то высахла. Пазнавалі сухастоіну без памылкі. І хто б з нас, хлапчукоў-падпаскаў, пастухоў, ні ўбачыў сухастоіну, без паперкі і алоўка запісваў у памяці заданне самому сабе: увечары, як толькі ўбачыць тату, скажа, дзе ўбачыў сухастоіну, якая яна — высокая ці нізкая, тоўстая ці тонкая, з густымі ці рэдкімі галінамі. Раскажа, як — і ці лёгка — даехаць да сухастоіны. Дакладваў, ці лёгка спілаваць і абцерабіць яе, як яна ляжа на воз. Добра ж будзе, калі тая сухастоіна, лёгкая і гатовая, прыедзе на наш двор, будзе нашаю калодаю-бярном або нашымі дрывамі. У трох лясах, што акружалі нашу вёску, не толькі не забаранялася спілоўваць і забіраць сабе любую сухастоіну і любыя сухастоіны — за гэта была сама падзяка, а то — і ўдзячнасць. Жыло прызнанне: *Хто сухастой звозіць, той лесу і нам дабро робіць*. Жыло другое: *Сухастой з лесу звёз — лесу здароўя падвёз*. І нашто ўжо ляснік над казённым лесам! На тапарышча нічога не ссячы, на вудзільна-вудаўё не зрэж: убачыць — пакарае. Ці акт складзе, судом будзе страшыць. Ці сякеру або пілу адбярэ. Ці — пасля гэтага — і зайсці ў казённы лес бойся: убачыць — словам кальне, пастрашыць „кішэню памацаць". А калі спілоўваеш сухастоіну або цярэбіш яе ці ўжо на воз валіш, тады і гэты ляснік некалючы, а памякчэлы: не вельмі скажа табе дзякуй, але памяркоўна будзе і словы казаць, і падможа, ну, хоць пень абкарыць, на воз цялеш падняць... Гады ідуць. Часта — грыбныя. Не раз за лета і за пачатак восені абходжу лясныя дзялянкі. Сустракаю грыбнікоў, пастухоў. Бачу... сухастоіны, сухастоіны, сухастоіны ў гэтых густых, пасляваенных лясах...".

Фёдар Янкоўскі жыў яшчэ да наступу віртуальнай рэчаіснасці, жыў ён у наяўным свеце, ступаў па наяўнай зямлі і ўспрымаў свет такім, якім ён у сапраўднасці.

А дрэвы — гэта ж арганізмы, якія жывуць і паміраюць, у агульнасці як людзі. А людзей жа памерлых паляць або хаваюць у зямлю, каб у памяці захаваць толькі жывых іх; не хочам, каб пасля смерці аставаліся і тлелі сярод нас. Тое ж самае і з дрэвамі, лясамі, Пушчай — пажадана, каб яны аставаліся адно ў поўні жыццёвых красак...

Некалькі дзясяткаў гадоў таму разгарнуўся ў нас наступ на ваўкоў, на тыя сімвалы зверства. І перабілі іх значна. І аказалася, што стала хварэць лясная звярына — не стала тых „лекараў", якія зводзілі хворых казуль ці аленяў, пакідаючых выжываючымі толькі здаровых звяроў. І спатрэбілася вярнуць у прыроду ваўкоў, бо ж няма такога злога, што не несла б за сабою нейкай карысці.

Цікава пакідаць асобныя ачагі, куды не ўмешваўся б чалавек. Можна ж іх арганізаваць не толькі ў Пушчы — вельмі цікава было б абяззлюдзіць і пакінуць прыродзе нейкі квартал гарадскіх хмарачосаў, нейкі квартал гарадскіх асабнякоў і аб'явіць там строгія запаведнікі. Напэўна развіліся б там арыгінальныя біятопы, якія зацікавілі б не толькі навукоўцаў, але і шырокія колы прагных усялякіх навін самых прыстойных грамадзян. І цікава таксама, як жа тыя грамадзяне паставіліся б да такога праекта, калі б ён кранаў іхнюю выгаду...

Па дарозе з Альховай Кладкі ў Падляўкова Пушча амаль вярнулася да свайго нармальнага выгляду; асталося толькі прыбраць астатнія тэрыконы мёртвай ад караедаў драўніны ад сухастоіны. І можна было б радавацца вяртанню нармальнасці ў Пушчу. Аднак пакуль што зарана, бо ж у наш час, час глабальнай вёскі, дзе жывуць не толькі паны і мужыкі, але як і ў кожнай вёсцы спакон вякоў, жывуць сярод іх і звычайныя халопы, цяпер часта падбухторваныя віртуальнай, далёкай ад сутнасці фікцыяй. І ў такіх умовах невядома, ці на месца Пушчы не з'явіцца нейкая новая рэальнасць...

Аляксандр ВЯРБІЦКІ


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі




# Кастыцэвіч вучыць і захапляе!

— Я хацела б яшчэ раз пабачыць гэты спектакль, — кажа Вікторыя Гаць з бельскай «тройкі».

Мова пра пастаноўку «Добры дзень, Яраслаў Васільевіч!», які пад кірункам Іаанны Троц і настаўніцы Валянціны Бабулевіч падрыхтавала бельская моладзь. П'еса апавядае пра легендарнага бяльшчаніна і настаўніка Яраслава Кастыцэвіча. Ён патрон бельскай «тройкі».

Вікторыя Гаць, калі праходзіла па школьным калідоры побач стэнда, прысвечанага Кастыцэвічу, не ўяўляла які гэта быў вялікі чалавек.

— Ён быў аўтарытэтам ва ўсім, — кажа сямікласніца.

— У пастаноўцы гаворачь, што ён быў суровы і патрабавальны, — правакуем вучаніцу, — моладзь такога не любіць!

— Часам добра, калі настаўнік такі суровы, — пярэчыць Вікторыя і дадае:
— Ён так напраўду любіў і шкадаваў сваіх вучняў, дапамагаў ім здзяйсняць жыццёвыя планы і мары. Ну і цаніў музыкантаў і ўсіх, хто праяўляў мастацкія здольнасці.


фота http://www.czrevo.pl/

Вікторыя захоплена ігрой старэйшых сяброў. Яна сама таксама хацела б выступіць у такой пастаноўцы.

Марта Свідэрская таксама пад уражаннем ігры старэйшых сяброў. Яна з прызнаннем глядзела на брата Пятра. На пачатку хвалявалася за яго выступленне. Зусім непатрэбна. На сцэне ён не згубіў упэўненасці, нічога не пераблытаў. Спектакль у пэўным сэнсе даспяваў у іх хаце. Пятрусь выстойваў перад люстрам, мадуляваў голас і міміку, крычаў на цэлае горла.

— Ён няраз гэтым крыкам здорава мяне напалохаў, — смяецца Марта.

Уся сям'я Свідэрскіх перажывала за Петруся. Бацькі хвалілі яго і рабілі ўсё, каб не загас сцэнічны энтузіязм хлопца. І сапраўды Пятро не падвёў на сцэне. Яго смела можна лічыць лепшым акцёрам у пастаноўцы. Калі ідзе пра ігру, дык тут відавочна вылучаліся шматгадовыя ўдзельнікі «Антракта» Максім Фіёнік, Інэса Гапанюк, Оля Зінкевіч, Юлія Скарбіловіч. Пятро Свідэрскі не адставаў ад іх як акцёр. У яго таксама не было праблем з націскам.


фота http://www.czrevo.pl/

Калі пра вымаўленне і націскі, тут сапраўды ёсць над чым працаваць. Гэта праблема надта відавочная пасля канікулаў. Частка акцёраў забылася як правільна акцэнтаваць і вымаўляць словы. Праўда, на гэтым хісткім полі мы прыкмецілі пазітыўныя прыклады. Вось Патрыцыя Нічыпарук вельмі падцягнулася ў моўным сэнсе за час канікулаў.

Апошняя прэзентацыя мела свае праблескі. У спектаклі гасцінна выступіла Магдалена Гаўрылюк. Усе памятаем Магду са спектакля «Бежанства». Зараз яна студэнтка тэатральнай акадэміі. Магда паказала як прыкаваць да сябе ўвагу. На гэта патрэбная засяроджанасць і валоданне голасам. Калі яна брала слова, усе на яе глядзелі і слухалі.

У пастаноўцы жывая музыка і цудоўныя песні. Гэты бок спектакля апрацавалі Ганна Фіёнік і Іаанна Троц. Вялікай нечаканасцю быў шэдэўр сусветнага гурта «Brutto». Песня на словы Янкі Купалы надта сугучная жыццёваму і настаўніцкаму дэвізу Яраслава Кастыцэвіча. Хоць словы ўзніклі ў мінулым стагоддзі, яны не згубілі актуальнасці:

*Будзь смелым!.. Магутна ярмо*
*друзгачы!*
*Ідзі сам наперад, другіх ведучы!*
*Будзь смелым!.. Не вер у людскую*
*брахню,*
*Вер толькі ў адвагу і сілу сваю!*
*Будзь смелым, як вецер, як воля сама!*
*Знай, смелых не чэпле ні крыўда,*
*ні цьма!*
*Будзь смелым, як бура, што*
*крышыць дубы,*
*А будзе твой верх, тваё права*
*ўсягды.*

Мы ўжо раней напісалі, што спектакль «Добры дзень, Яраслаў Васільевіч» павінен стаць візітнай картачкай бельскай «тройкі». Гэта павінна спрацаваць. Малодшыя вучні, як Вікторыя Гаць, вельмі хацелі б выступіць у такім спектаклі. Згаданая пастаноўка адбылася на дошках Драматычнага тэатра ў Беластоку пры поўнай зале. Нашы аматары тэатра, большасць якіх зараз вучні Бельскага белліцэя, выступілі ў Беластоку два разы — раніцай і вечарам. Гэта ўсё адбывалася на свята Уздзвіжання Крыжа Гасподняга, 27 верасня, у рамках чацвёртага выпуску Фестываю «Одэ».

**Фота і тэкст**
**Ганны КАНДРАЦЮК**

# ЛІСТАПАД У ЛЕСЕ

Стракатыя дрэвы і хмызнякі паволі скідаюць свой асенні ўбор. Вось адзін лісцік вінцікам ляціць з жоўтай бярозкі. Другі — валікам па паветры коціцца. І чым бліжэй да зямлі, тым усё паскарае і паскарае абароты. Трэці — стракатым матыльком пырхае над парыжэлай травою, доўга выбіраючы месца, дзе б апусціцца. А гэты, буры, лёгкай птушкай пераляцеў прасторную палянку і паволі прысеў пад чырвоным кустом брызгліны.

З розных дрэў па-рознаму лісце ападае. Лісце клёнаў парашуцікамі апускаецца ўніз. Іншы раз нават з парашутыстам на канцы чаранка — павучком якім-небудзь альбо мошкай.

І няма двух лістоў, якія б аднолькава падалі. Колькі б іх ні было ў лесе, кожны пасвойму з асенняй зямлёю сустракаецца.

**Рыгор ІГНАЦЕНКА**



Міра ЛУКША

## На грыбы

Ой, грыбоў тут нарасло,
Хоць касі касой!
Ранічкаю крамяной —
З кошычкам у лес гурбой.

Адны грыбы растуць у сям'і,
Іншы самоту абірае.
Ідуць на ловы грыбнікі,
Вокам у кастрыцу, мох цаляюць.

Падземнага ён свету госць,
І на наш хораша зіркае...
— Заходзь у кошык, ягамосць.
У лесе разам пагуляем...

— Залазь у кошык сам, грыбнік!
Сам падстаўляй пад ножык ножку!
Хацеў бы, каб і табе — чык!
Як толькі выйдзеш на дарожку?

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Вол і конь

Вол і конь размаўлялі з сабой.

Конь кажа:

— Хто ты і на каго ты падобны? Вось я — конь! Цары, князі і бароны ўпрыгожваюць мяне золатам, серабром і садзяцца на маю спіну.

Вол, памаўчаў і адказаў:

— А я — дабрадзейства гэтай краіны! Я цяжка працую, стамляюся, усё для таго, каб ты і твой цар спажывалі мой заробак. Дзякуючы маёй працы народ сыты і шчаслівы. А калі я не буду працаваць, ты і твой цар памраце ад голаду. Не будзь жа такім няўдзячным!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Фота Ганны **КАНДРАЦЮК**



Хлопцы з «Падляшскага вянка» з Беластока.

## УВАГА КОНКУРС! № 42-17

## Загадкі з роднай хаткі

**У кожным доме ёсць, на дачы —**
**На стале ці на сцяне.**
**Яно кожнага з нас бачыць,**
**А сябе — ніколі, не!**
**Л.....**

**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадку, адказы дашліце ў „Зорку” да 22 кастрычніка 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 38-39: тэрмометр. Узнагароду, беларускую кніжку, выйграў Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 42-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 38-17:**

Пуп, ванна, апякун, узрост, Ас, вусны, выспа, мо, кухня, ар, пах, узлёт. Ну, звычка, парус, ух, поспех, вясна, факты, вяз, Анна, маё, порт.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі: запісныя кніжкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк, Магда Якубюк, Вікторыя Гаць** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!



# Чаму мова тытульнай нацыі Рэспублікі Беларусь не з'яўляецца рэальна дзяржаўнай

(працяг з 41 н-р Нівы )

Мова родная – мова модная! Калі ласка, размаўляй са мной па-беларуску!

**Такой забойнай для тытульнага народа любой аднанацыянальнай краіны моўнай палітыкі ўслед за Рэспублікай Беларусь не ўвяла ніводная з утвораных на постсавецкай прасторы дзяржаў. У іх працягвалі функцыянаваць прынятыя ў апошнія гады існавання СССР справядлівыя, цалкам адпаведныя сусветнай практыцы законы аб мовах: у краіне з адной тытульнай нацыяй статусам дзяржаўнай надзяляецца толькі яе мова. Не раз думалася, каб не развалілася СССР, Рэспубліка Беларусь не пайшла б на ўвядзенне афіцыйнага беларуска-рускага двухмоўя, бо гэта не стыкавалася б з усталяванай ва ўсіх саюзных рэспубліках моўнай практыкай.** Зараз, не будучы залежнай ад іх ці ад якога-небудзь наддзяржаўнага цэнтра, улады Рэспублікі Беларусь знізу даверху спаўна ўкамплектаваныя абрусельмі, адарванымі ад нацыянальнай глебы чыноўнікамі, без асаблівых цяжкасцей вытурылі беларускую мову на абочыну афіцыйнага жыцця, у выніку чаго яна стала малааўтарытэтнай у грамадстве, амаль зусім нячутай і сярод сваіх прыродных носьбітаў. Адбылося амаль поўнае беларускамоўнае аняменне як на афіцыйным, так і на прыватным узроўнях. На здзіў, гэтым смяротным для беларускай мовы шляхам не пайшла разам з сапраўднымі нацыянальнымі патрыётамі толькі адна з самых шматлікіх у нас хрысціянскіх канфесій — каталіцкая. Праваслаўная царква застаецца вернаю рускаму духу.

У высокіх эшалонах улады ў поўнай меры разумеюць усе сур'ёзныя заганы, хібы сваёй моўнай палітыкі, але публічна прызнаць іх не жадаюць. Яны пускаюць разлічаныя на прастакоў плёткі, што для беларусаў, маўляў, роднай мовай з'яўляецца і руская, што ў яе стварэнне яны ўнеслі вялізны ўклад, што без іх мо і ўвогуле яна не з'явілася б на свет. Тут ужо адчуваецца нават нейкая знявага і да саміх рускіх, нібыта не здольных стварыць для сябе ўласную мову.

Дарэчы, беларусы некалі мелі не менш цесныя моўныя кантакты і з заходняй суседкай. Аднак ні яны самі ці хтосьці іншы не пускаў плётак, што іх родная мова — польская мова. Сучасныя ж палітыкі РБ, каб зкмыць сваю віну за амаль поўную адсутнасць беларускай мовы ў афіцыйным жыцці, ідуць на любую фальсіфікацыю. Праўда, апошнім часам адчуваецца нейкая заклапочанасць уладных структур катастрафічным станам беларускай мовы, але дзейсныя практычныя захады па развязванні гэтай пераспелай архіскладанай праблемы на дзяржаўным узроўні не робяцца. Калі ж дзяржава па-сур'ёзнаму, а не на словах задумае ратаваць ад пагібелі беларускую мову, трэба пачынаць з паступовага планавага ўвядзення яе ў сваю практычную дзейнасць. Калі такое будзе заўважаным у сферы палітычнага жыцця, на гэта адразу ж прарэагуюць адміністрацыйна-гаспадарчыя органы і падначаленыя ім прадпрыемствы і арганізацыі, установы адукацыі, навукі, культуры, усё грамадства ўвогуле. Балазе, у нас ёсць багатая ў гэтым практыка, набытая ў гады міжваеннай беларусізацыі.

Паколькі майскім рэферэндумам беларускую мову ў заняпад прывяла дзяржава, таму ад яе павінна і сыходзіць ініцыятыва па ратаванні неацэннай святыні нашай Бацькаўшчыны.

Лішнім было б тлумачыць, наколькі складана ў сучаснай экстрэмальнай сітуацыі забяспечыць паўнавартаснае жыццё беларускай мове. Праблема ледзь не параўнальная з ліквідацыяй цяжкіх наступстваў Чарнобыльскай катастрофы. Аднак, гэта не прычына, каб дзяржава бяздзейнічала, нічога не рабіла, як гэта было характэрна для яе ў апошнія два дзесяцігоддзі.

Агульнавядома, каб сёння беларуская мова не на словах, а на справе стала дзяржаўнай, яе трэба поўнамаштабна ўвесці ў палітычнае, эканамічнае і вайсковае жыццё, адукацыю, навуку, культуру, а таксама ў розныя сферы неафіцыйнай грамадскай дзейнасці людзей. Не сакрэт, што такое рэальна толькі праз самае істотнае абмежаванне сацыяльных функцый рускай мовы, якую ўжо з першых дзён усталявання прэзідэнцкай сістэмы кіравання краінай яе ўлады, як след не падумаўшы, зрабілі фактычна адзінай дзяржаўнай і пачалі планамерна выводзіць беларускую мову адусюль, куды яе змаглі ўкараніць дагэтуль. Не сакрэт, што пайсці на абмежаванне маштабаў выкарыстання рускай мовы ў афіцыйным жыцці ніхто з нашых палітыкаў нават і пры вялікім жаданні не адважыцца, ведаючы, як за яе лёсам у іншых краінах пільна сочаць Маскоўскі Крэмль і яго гаспадар Уладзімір Пуцін. Таму на прыняцце супярэчлівых іх інтарэсам захадаў па вырашэнні моўнай праблемы не хопіць смеласці ў палітычнага кіраўніцтва РБ, прычым нават і тады, калі яно цвёрда ўсвядоміць сабе, што моўная залежнасць ад усходняга суседа да нуля зводзіць яе дзяржаўны суверэнітэт. Вось у што, цалкам заканамерна, вылілася недасведчанасць у моўным пытанні тых, хто прыйшоў да ўлады ўлетку 1994 года, хто ў маі 1995 года рукамі збітага з панталыку народа сацыяльна ўраўняў рускую мову з беларускай! Зараз яе не выратаваць без згоды Масквы, таму, відаць, прасіць вярнуць яе на законны дзяржаўны пасад трэба не так прэзідэнта А. Лукашэнку, як палітычнае кіраўніцтва Расіі. Надзеі ж на яго згоду вельмі мала, паколькі яно так моцна зацікаўлена ў тэрытарыяльным аднаўленні колішняй савецкай імперыі — СССР. Утварылася нешта падобнае на бязвыхадны тупік! Адно, што хоць крыху суцяшае, ведаем, хто пакінуў паслухмяны, ціхмяны беларускі народ без роднай мовы: у канец зруселя, зарыентаваныя на Маскву палітыкі супольна са шчыра адданымі ім здэнацыяналізаванымі ідэолагамі.

Не ведаю, як іншыя, я ж мяркую, што сучасныя ўлады не пажадаюць, не адважацца прызнаць, якая незаслужаная ласка была зроблена рускай мове майскім (1995) і лістападаўскім (1996) рэферэндумамі і не прызнаўшы, нават не падумаюць штосьці канкрэтнае прапанаваць па выпраўленні ўродлівай моўнай сітуацыі. Яны выдатна разумеюць, што адзіным законным гаспадаром рускай мовы, у тым ліку і на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, з'яўляецца Расія і што без згоды апошняй беларусам недапушчальна нават і сімвалічна замахнуцца на гэтую так дарагую ёй святыню, хаця і чужой яна з'яўляецца для нашай гарапашнай зямлі.

Прапанаваць штосьці слушнае, канструктыўнае па выпраўленні нашага каламільнага моўнага становішча даволі складана аднаму аўтару. Тут патрэбен калектыўны розум. Пэўныя ж меркаванні выкажу. Рэальны стан беларускай мовы зараз такі, што заканадаўцы павінны, не бавячы час, перагледзець артыкул Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якім яна надзелена статусам дзяржаўнай, бо ў жыцці такога ні на ёту не назіраецца, віноўнікамі чаго ў першую чаргу з'яўляюцца самі органы ўлады і кіравання. Яны пры выкананні сваіх службовых абавязкаў зусім не карыстаюцца дзяржаўнай беларускай мовай, г.зн. груба парушаюць асноўны закон краіны і таму не толькі фармальна, але і па сутнасці падлягаюць пакаранню, чаго мы не бачым на практыцы. Са сказанага напрошваецца такая выснова: трэба альбо праўку ўнесці ў Канстытуцыю РБ, альбо жорстка караць тых, хто не выконвае яе палажэння аб мове. Лічыць жа беларускую мову дзяржаўнай толькі за тое, што яна калі-нікалі гучыць па радыё і тэлебачанні (пераважна дзякуючы выкарыстанню яе самімі журналістамі), у запісах у салонах гарадскога транспарту, на некаторых аўтазапраўках — гэта ёсць у найвышэйшай ступені прафанацыя.

Каб сёння беларуская мова была пасапраўднаму дзяржаўнай, не існавала б патрэбы ў вузкіх колах людзей ладзіць на ёй раз у год дыктоўкі. Робіцца ж гэта не ад дабра, а толькі дзеля таго, каб выратаваць занядбаную ўладамі беларускую мову ад рэальнага скону. Не надае апошняй фактычнай дзяржаўнасці і жабрацкая прысутнасць роднага слова ў сістэме адукацыі. Я не супраць, каб у такіх месцах хоць і па-жабрацку гучала беларуская мова, але гэта ніколі не надасць ёй рэальнай дзяржаўнасці. Каб выйсці на такі ўзровень, патрэбны поўны перавод сістэмы адукацыі нашай краіны на яе нацыянальную беларускую мову.

Здзіўляе зацятая ўпартасць спрэс рускамоўнага дзяржаўнага чыноўніцкага апарату ў нежаданні хоць збольшага выправіць учыненую ім праз рэферэндум 1995 года пагібельную для беларускага народа памылку. Нават зусім недасведчанаму чалавеку зразумела, што ніхто іншы, а толькі нашы палітыкі канчаткова загубілі беларускую мову, як дзяржаўную, выявіўшы гэтым самым ці сваю абсалютную абыякавасць да яе, ці поўнае неразуменне дадзенай праблемы. А было ж і сёння ёсць у каго павучыцца яе развязванню, да прыкладу, у Пакістана. Яго карэнныя народы, а не якія-небудзь прышлыя этнічныя меншыні, выкарыстоўваюць больш за 70 нацыянальных моў, а афіцыйнай мовай з'яўляецца ўсё ж адна: урду, як мова самага шматлікага народа. Здаўна распаўсюджаная тут і англійская мова, але ў палітыкаў Пакістана хапіла розуму не надаць ёй статусу дзяржаўнай. Адначу і такое: у гэтай краіне ў некалькі разоў больш насельніцтва, чым у Рэспубліцы Беларусь і тым не менш дзяржаўная мова толькі адна — мова асноўнай карэннай нацыі. Еўрапейскай Беларусі ёсць чаму павучыцца ў гэтай азіяцкай краіны! Бяда толькі, што няма ахвоты.

**Леанід ЛЫЧ,**
доктар гістарычных навук, прафесар



# Дзмітры ШАТЫЛОВІЧ

# Вершы

### ДЗЕНЬ ПРАЙШОЎ

Дзень прайшоў у мяне, як учора,
Без вяселля, без смутку, без гора,
Не пужала мяне непагода,
Не чакаў, што пачую нягоды.
Раптам вестку пачуў я з экрана,
Што дзесь вёскі дрыжаць ад бурана,
Што зрывае з дамоў вецер дахі,
Што жанчыны там плачуць ад жаху.
Што віхура ламае там дрэвы,
І дождж з градам там знішчыў пасевы,
Што разбіла там дрэва машыну
І забіла ў машыне жанчыну.
Потым вестка прыбегла другая,
Што смяротніца дзесь маладая,
Пры турэцка-сірыйскай граніцы
Узарвалася побач святліцы,
Ці ля дома культуры студэнтаў.
Налічылі ўжо ў гэтым маменце
Больш чым трыццаць забітых ахвяраў,
Іх выносяць далей санітары.
Многа раненых з гэтага дома,
Акрываўленых хлопцаў з разгрома,
Іх вязуць санітары ў бальніцы,
Ля сірыйска-турэцкай граніцы.
А здавалася пройдзе дзень ціха,
А буран паявіўся, як ліха,
І ў турэцкай ісламскай краіне
Джыхадыстка са студэнтамі гіне.

### ПАХОДКАЮ ЦІХАЮ ВОСЕНЬ

Паходкаю ціхаю восень
Да нас падкрадаецца ўжо,
Шукае ў іржышчах калосся,
І моцна іх топча дажджом.
З халодным сябруючы ветрам,
Зрывае лісты з розных дрэў
І бавяцца імі з паветрам,
Выказваюць радасць і гнеў.
Завыюць яны, як гіена,
Застукаюць нам у акно,
У клуні панюхаюць сена,
Ачысцяць са смецця гумно.
А восень пакіне нас з хмарай
І з ветрам на тыдзень ці два,
І сонца на нас круглым тварам
Глядзець будзе, як каравай.
Пабачым мы бабіна лета,
Зялёную нават траву,
І ў парках яшчэ многа кветак,
І птушак між дрэў наяву.
Ды восень халодныя ночы
Падкіне нам хутка ўсур'ёз,
За імі пачне бодра крочыць
Штодзень непрыемны мароз.
Нам неба закрыюць зноў хмары
Пальюцца з іх часта дажджы,
Зайграюць нам ветраў фанфары,
Аж дом наш ад іх задрыжыць.

### ГЕРАНІ

Зімой у лоджыі праз шыбы
Глядзяць герані дзве на снег,
На ледзяныя ўнізе глыбы
І на машын далёкі бег.
І дзівяцца, што за сцяною,
Скаваў ваду, зямлю мароз,
Што бачаць белы снег зімою,
Што дрэвы ўпалі ўсе ў гіпноз.
У цёплай лоджыі прыемна
Глядзець ім вонкі за акно,
Днём бачыць вуліцы штодзённа
У снезе, быццам палатно.
Бо ў снах аб Афрыцы Паўднёвай,
Дзе продкі іх калісь жылі,
Не сніцца ім пейзаж зімовы,
Ні лёд, ні снежныя палі.
Таму, калі вясна настане
І снег загіне за акном,
Ззазяюць кветкі мне ў гераній
Чароўным радужным святлом.
І днём, і ноччу, ў час світання
Іх факелы мне будуць ззяць,
Мае індыйскія спатканні
Яны пачнуць прыпамінаць.
Яны цвілі мне ў агародзе,
Іх кветкі бачыў за акном,
Пры яркай сонечнай пагодзе
Зімою ззялі і вясной.

### АСЕННІ ЧАС

Нябёсы вельмі часта сталі плакаць,
Густыя слёзы сыпаць на зямлю,
Часцей у садзе можна ўбачыць шпака
Дзе слухае, як вецер вые блюз.
Зліласе ў полі цішыня з імглою
І акружылі navакол лясы,
Здалёку толькі чуем над ракою
Вясёлыя людскія галасы.
Сядзяць там вудары і ловяць рыбу,
Хоць дождж малы імжыць на іх з нябёс,
Яны глядзяць у ваду, як у шыбу,
Ці не паявіцца дзесь рыбін нос.
Усё цяпер наўкол цячэ няспешна,
Пайшло вяселле лета ў забыццё,
А многа птушак уцякло паспешна
Далёка ў вырай, там пазнаць жыццё.
А тыя, што засталіся жыць з намі
Сядзяць у лесе моўчкі між галін,
Чакаюць, як заззяе над палямі
На небе сонца, быццам цэпелін.
Тады яны раптоўна ажываюць,
А разам з імі звяры і лясы.
Ды салаўі ўжо нам не заспяваюць,
Свае забралі ў вырай галасы.
Ды чуем мы, як каркаюць вароны,
А ў парках шчабятанне вераб'ёў,
І ўбачым многа птушак на загонах,
Там бегаюць, шукаюць чарвякоў.

### ВЕЧАР НАД ВОЗЕРАМ

Спяшае дыск сонца хуценька на захад,
Сышоў ужо зусім за гарызонт,
І зоркі з цемры выбеглі са страхам,
І занялі нябесны парасон.
А возера, як люстра адбівае
Чароўны вобраз неба, бляск яго,
Яно ад неба бляску ярка ззяе
Плеядай яркіх зорак, як агонь.
На ўсходзе хутка з цёмнай стужкі лесу
На неба выплыў светлай хмары цень,
З яе раптоўна выбег яркі месяц
І ясна ўсюды стала, як у дзень.
Пяшчотнае паўднёвае паветра,
Прыемны шум халодных ціхіх хваль,
А пры вадзе, не чуць паveву ветру,
Вада блішчыць, як у кінжала сталь.
На возеры здалёк я ўбачыў лодку,
Як з музыкай плыла яна між хваль,
Ды адплыла праз нейкі час кароткі,
А з ёй заціх іграючы рояль.
І цішыню я зноў пачуў навокал,
Загінуў нават хваль спакойны шум,
Смяяўся толькі месяц круглашчокі,
Каб зняць з маёй душы журбу і сум.
Не чуючы ні холаду, ні жару,
Ляжаў я ў бляску радужных свяцціл,
Глядзеў на воды возера і марыў.
Я тут да працы набіраў зноў сіл.

### БУРАН НАД ВОЗЕРАМ

На возеры Снярдвы наскочыў раптоўна
На катэр наш з гулам буран ліхадзей,
І трэсці гвалтоўна стаў катэрам скромным,
Высокаю хваляй абліў ён людзей.
Падняў мітусню ён на катэры нашым,
Пачуліся крыкі жанчын і дзяцей,
Выцąем сваім дзікім іх больш яшчэ страшыў,
І дзьмуў у твар ім, як жулік, круцель.
Аднак праваднік іх усіх супакоіў,
Прасіў іх: „Трымайцеся лавак мацней!"
Хоць вецер далей не даваў нам спакою,
Мы слухалі подых бурану смялей.
Хоць страшыў далей нас істэрыяй дзікай
І хвалямі нас абліваў, як дажджом,
Не чуў ён на катэры плачу і крыкаў,
Пабачыў, што страх нас пакінуў ужо.
Тады адвярнуўся буран маментальна,
Пакінуўшы нас, ён на захад пабег,
Па возеры катэр плысці стаў нармальна,
Пачуўся на ім толькі радасны смех.
Да прыстані катэр паплыў нам спакойна
І ззяла, як люстра, навокал вада
І толькі кільватэр бурліў непрыстойна
За катэрам ззаду, па нашых слядах.
Мы мокрымі з катэра выйшлі на прыстань,
Шчаслівыя, што не ўтапіў нас буран,
Гарачае сонца на небе празрыстым
Блішчала ўгары, як чароўны брыльянт.

### СКАРГІ ЛЕСУ

Лес чэрвеньскі нас сёння прывітаў
Прыемным холадам і спевам птушак,
Калі ўвайшлі мы, нешта нам шаптаў,
Ды ў шэпце скаргі чулі нашы вушы.
Ён скардзіўся, што нішчаць тут яго,
Калі прыходзяць людзі на паляны,
Распальваюць на іх заўжды агонь,
Гарэлку п'юць і п'яныя буяняць.
І паляць ягаднікі, што растуць наўкол,
Зразаюць з дрэў прыгожыя галіны,
У дуплах нішчаць гнёзды многіх пчол,
Гудуць паблізу гучныя машыны.
Скідаюць часта гнёзды птушак з дрэў,
Ці з гэтых гнёздаў забіраюць яйкі,
Выказваюць да птушак дзікі гнеў,
Прыехаўшыя гарадскія шайкі.
Лісткі дрыжалі плакаўшых асін,
Якіх яны тут многа наламалі,
Чарніцаў ягадніку і малін,
Якіх яны без жалю патапталі.
Мы не маглі суцешыць бедны лес,
Яму прынесці вецер мог пацеху,
Павевам адганяў ад смутку стрэс,
Так, каб бліжэй было яму да смеху.
Не скардзіліся птушкі тут між дрэў,
І між асін, і між бяроз і сосен.
Усюды чуўся іх вясёлы спеў,
Іх будуць чуць, пакуль не прыйдзе восень.

### РАДЗІМА БЕЛАРУСЬ

Не мог я Радзіму ніколі
Забыць, дзе бываў на зямлі,
Тужыў я па ёй у няволі,
Дзе лёс мяне кінуў калісь.
Тужыў я па ёй на чужыне,
Дзе часта блукаў і гасціў,
Куды па жыцця каляіне,
Не раз пападаў у жыцці.
Хваліў я Радзіму заўсёды,
Не мог наракаць на яе,
Жадаў я ёй шчасця, свабоды,
Каб гора не мела і бед.
Жадаў ёй здабыць незалежнасць
Ад моцных суседзяў сваіх,
Каб згінула ёй непазбежнасць
Папасці ў няволю да іх.
І выйшла з няволі Радзіма,
Свабоднаю стала зусім,
Я цешыўся разам з другімі,
Што згінуў савецкі рэжым.
Жадаў я, каб родная мова
Дзяржаўнаю стала для улад,
І каб яе чулі ў прамовах,
Каб на ёй гаварыў урад.
Ды хутка народ па няволі
Дыктатару ўладу аддаў,
Схапіў ён яе без патолі,
Стаў страшыць усіх, як удаў.
У турмы ўсадзіў патрыётаў,
Хто супраць яго выступаў,
А родную мову з ахвотай
Загнаў у глыбокі падвал.
Ён моцна трымаецца ўлады,
І тысячы ўказаў стварыў,
Праз дваццаць гадоў без спагады
Смяецца з народа згары.

# Засталіся адно ўспаміны (22)



Выйшаў я з аддзялення кадраў. Думкі біліся ў галаве, не давалі спакою. У чым я правініўся? Каму зрабіў крыўду? Рашыў высветліць справу ў дырэкцыі. Падаўся да намесніка дырэктара па тэхнічных справах. Калі я тлумачыў дырэктару, што без прычыны вызвалілі мяне з работы, дырэктар адкрыў шафку і выняў папку з дакументамі.

— Гэта вы пісалі?

Перада мною паклаў картачку, якую я 7 жніўня пісаў шафёру Скепку: «Odegrajcie beze mnie film. Jutro wypijemy flaszkę». Прызнаўся... У ВПК я карыстаўся добрай рэпутацыяй. Не было скарг. Кінаперасоўка давала прыбытак. Магчыма таму віцэ-дырэктар Шумель гаварыў са мною не як абвінаваўца з абвінавачаным, але як бацька з сынам:

— Не магу зразумець, чаму так разважлівы чалавек мог зрабіць такое глупства. Пісаць пісьмо, пакідаць доказ? Гэта ж дурасць якой свет не бачыў. Замест сачыць за парадкам і дысцыплінай, кіраўнік распівае брыгаду...

З хвалюючымі думкамі і непакоем вяртаюся дадому. Вызваленне ад працы ў ВПК паставіла бацьку ў заклапочанасць. Што далей. Дзе шукаць працу?

— Заўтра паедзем да дырэктара, — заявіў бацька. — Буду прасіць галоўнага. Можа адменіць рашэнне...

1 кастрычніка ранішнім цягніком адправіліся мы ў Беласток. На калідоры пры касе сустракаю кіношнікаў першага тура, якія збіраліся выязджаць у камандзіроўку. Сярод іх прыкмячаю кінамеханіка Чарняніна і шафёра Скепку. Сядзелі, спусціўшы зрок уніз, быццам мяне не прыкмячалі. Я падаўся ў Аддзел кіно да спадарыні Гедрайць. Бацьку выклікалі да дырэктара. У кабінеце заспеў бацька галоўнага дырэктара Ірынея Крцаля, яго намесніка Леанарда Шумеля і загадчыцу Аддзела кадраў Катажыну Маразевіч. За закрытымі дзвярыма рашаўся мой лёс. Размова доўжылася некалькі мінут. Затым выклікалі мяне ў Аддзел кадраў, дзе ўручылі дзве пісулькі. Першая з датай 12 верасня 1963 г. і подпісам віцэ-дырэктара Шумеля паведамляла, што за прагул на рабоце пры верасьнёвай зарплаце будзе вылічаны неналежны мне дзённы заробак. Другая — ад 1 кастрычніка 1963 г. і з подпісам дырэктара Крцаля — адмяняла рашэнне ад 30 верасня аб вызваленні мяне з работы і выносіла пакаранне — паўторнае папярэджанне.

Вяртаюся ў Аддзел кіно.

— Прыступайце да сваіх абавязкаў, — заяўляе спадарыня Гедрайць і прыбаўляе: — Спадзяюся, што не зробіце чарговага глупства. Трэцяга шанцу не будзе...

Узгадняю з шэфовай маршрут. Папаўняю білеты ўступу, якіх не хапала ў запасе. У Аддзеле кадраў бяру бланкі камандзіровак для трох чалавек. Затым падаюся ў машыну, дзе чакалі ўжо кінамеханік Чарнянін і шафёр Скепка.

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК

## На рэабілітацыйным аддзяленні (7)



Аддзяленні лячэбнай і неўралагічнай рэабілітацыі ў Гайнаўскім шпіталі праходзілі рамонт у 2014 годзе і ў снежні здадзены былі ў карыстанне. Дзякуючы мадэрнізацыі ўдвая павялічылася карысная плошча. На адным са шпітальных будынкаў надбудаваны быў паверх для патрэб медыцынскай інфраструктуры і сацыяльна-бытовай базы аддзяленняў. Далейшая частка прайшла комплексны рамонт. Неўралагічнае і рэабілітацыйнае аддзяленні аснашчаны сучаснай апаратурай для рэабілітацыі і аздараўлення пацыентаў. Усе залы забяспечаны ва ўмывальнікі. Перад мадэрнізацыяй залы былі перапоўнены, змяшчалі да сямі ложак. У надбудаванай частцы — дзевяць зал для хворых. Таму зараз маем адно-, двух- і чатырохмесныя палаты. Гэта стварае лепшы доступ да пацыента, таксама дазваляе замацаваць пры ложках рэабілітацыйныя прылады. У агульным падліку мадэрнізацыя завяршылася сумай трох мільёнаў злотых.

Уладзімір СІДАРУК

Фота аўтара




„Ніва" ўжо неаднойчы пісала пра фірмы, якія выкарыстоўваюць у сваёй дзейнасці беларускую мову. Прычына — у іх невялікай колькасці, бо беларускую мову бізнесмены Беларусі выкарыстоўваюць вельмі рэдка. Таму вельмі прыцягваюць увагу тыя, хто не толькі бачыць у ёй магчымасць адзначыцца на рынку, але і не дае беларускай мове канчаткова знікнуць.

Гаротны стан беларушчыны ў камерцыі заўважаны даўно, і таму, каб неяк змяніць сітуацыю ў лепшы бок, у інтэрнэце ўзнік партал „Беларуская мова на спажывецкім рынку". Ён месціцца па адрасе **https://nabyvaj.by** і прадстаўляе сабой сайт, дзе не толькі сабраны кампаніі, якія карыстаюцца беларускай мовай, але і як пляцоўку, праз якую можна атрымаць паслугу — пераклад на яе цэлага бізнесу.

„Мы верым, што выкарыстанне беларускай мовы ў таварах і паслугах пазітыўна паўплывае не толькі на беларускае грамадства, але і на бізнес. На сайце можна азнаёміцца з лепшымі практыкамі ўжывання беларускай мовы ў спажывецкіх таварах, а таксама пакінуць заяўку на атрыманне прафесійнага перакладу матэрыялаў вашага бізнесу на беларускую мову", — распавядаюць уладальнікі сайта на старонцы „Пра нас", ніякім чынам не персаналізуючы сябе. Пры гэтым яны падкрэсліваюць, што Nabyvaj.by падтрымліваецца Таварыствам беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

Дадзены сайт мае сучасную будову з яе гарызантальным дзяленнем на рубрыкі. На галоўнай старонцы тызер, дзе не толькі размешчана назва партала, але і прапануецца замовіць вышэйзначаны пераклад. Выйсці да рубрык знаходзяцца як уверсе, так і ўнізе цэлага выяўлення. Таксама на галоўнай старонцы можна пабачыць анонсы артыкулаў апошніх падзей, незалежна ад таго, у якой рубрыцы яны знаходзяцца. З размешчаных матэрыялаў становіцца вядома, што літаральна нядаўна партал займеў першага кліента, які выказаў жаданне атрымаць беларускамоўную версію сайта. Варта адзначыць, што дадзеную паслугу Nabyvaj.by аказвае абсалютна бясплатна. Таму натуральна ўзнікае пытанне, ці з'явіўся б у сайта кліент, калі б за яе трэба было плаціць?

Напачатку верасня ў Мінску адбылася прэзентацыя даследавання стану беларускай мовы на спажывецкім рынку. Зразумела, што натхняльнікі сайта не маглі пакінуць па-за ўвагай гэтую падзею, і цяпер артыкул пра яе месціцца ў рубрыцы „Навіны". Згодна даследаванню, „калі па даных перапісу 1999 года 73,6% грамадзян Беларусі назвалі беларускую мову роднай, то перапіс насельніцтва ў 2009 г. паказаў: беларускую мову лічыць роднай ужо толькі 60%. Штодня размаўляе па-беларуску толькі палова з іх — 30% ад усяго насельніцтва краіны, то-бок асноўнай мовай жыхароў Беларусі праз недасканаласць заканадаўства і дзяржаўнай моўнай палітыкі з'яўляецца руская мова. За мінулыя гады сітуацыя толькі пагоршылася, і беларуская мова ў 2010 г. была ўнесена ЮНЭСКА ў Атлас моваў свету (UNESCO's Atlas of the World's Languages in Danger), якім пагражае знікненне".

На сайце змешчаны пералік фірм, якія, нягледзячы на неспрыяльныя для беларускай мовы рэаліі, усё ж такі выкарыстоўваюць яе. Паводле аднайменнай з сайтам рубрыкі, іх адзінкі, але насамрэч гэты пералік няпоўны. Напрыклад, усе аператары мабільнай сувязі ў Беларусі маюць беларускія версіі, а толькі не адзін згаданы на Nabyvaj.by Velcom.

Аляксандр ЯКІМЮК




Гаспадарнік, хрысціянін, філантроп



## 170 гадоў з дня нараджэння Эдварда Вайніловіча

Грамадска-палітычны дзеяч Эдвард Вайніловіч нарадзіўся 13 кастрычніка 1847 г. у маёнтку Вялікая Сляпянка (цяпер у межах Мінска). Належаў да сярэднезаможнага шляхецкага роду гербу „Сыракомля". Выявіў сябе як вернік, сумленны і працавіты чалавек, як абаронца права прыватнай уласнасці і патрыёт Беларусі. Атрымаў тэхнічную і сельскагаспадарчую адукацыю (у тым ліку за мяжой), але хутка пачаў займацца ў сваім маёнтку сельскагаспадарчай вытворчасцю, грамадскай і дзяржаўнай службай у Слуцкім павеце. Абіраўся сябрам дабрачыннага таварыства, па прызначэнні расійскіх улад быў шматгадовым ганаровым міравым суддзёй Слуцкага павета і дэпутатам дваранства. Быў апекуном над маяратамі малалетняга князя Альбрэхта Радзівіла, фінансаваў разам з іншымі будаўніцтва камерцыйнай вучэльні ў Слуцку, арганізоўваў сельскагаспадарчыя выставы.

Уступіў у 1878 г. у Мінскае таварыства сельскай гаспадаркі, стаў яго віцэ-старшынёй, а ў 1907-1921 гг. старшынёй. З 1888 г. фактычна быў кіраўніком Мінскага таварыства сельскай гаспадаркі, вывеў яго ў шэрагі самых эфектыўных гаспадарчых арганізацый. Дзякуючы Вайніловічу Мінскае таварыства сельскай гаспадаркі стала ўзорным і цэнтральным у літоўска-беларускім краі. У канцы XIX — пачатку XX ст. стаў неафіцыйным лідарам карэнных (каталіцкіх і польскамоўных) дваран літоўска-беларускіх губерняў.

У 1905-1910 гг. на свае грошы пабудаваў у Мінску велічны каталіцкі касцёл свсв. Сымона і Алены (Чырвоны касцёл) у памяць пра сваіх заўчасна памерлых дзяцей. Быў каталіком, але і заўзятым прыхільнікам міжнацыянальнага і міжканфесійнага міру, свабоды сумлення, будаваў праваслаўныя цэрквы, стаў заснавальнікам камітэта абароны праў яўрэяў і татараў у Клецку.

У 1906 г. адмовіўся ад прапанаванай Сталыпіным пасады намесніка міністра земляробства Расійскай імперыі. Стаў адным з лідараў ліберальна-кансерватыўнага кірунку „краёвасці" і першым старшынёй Краёвай партыі Літвы і Беларусі, выступаў за аўтаномію свайго краю ў складзе Расійскай імперыі, скасаванне саслоўных адрозненняў, ліквідацыю сялянскага малазямелля, развіццё сістэмы бясплатнай пачатковай адукацыі, роўнасць народаў, моў, культур, канфесій. Вялікім дасягненнем дзейнасці Вайніловіча ў Дзяржаўным Савеце Расійскай імперыі было ўвядзенне расійскім урадам у 1911 г. земстваў, што паспрыяла эканамічнаму і культурнаму развіццю. У час Першай сусветнай вайны дапамагаў бежанцам, ахвярам вайны, захоўваў эвакуяваную парадзістую жывёлу, арганізаваў дагляд за прыватнымі гаспадаркамі, чым памяншаў страты ад вайны. Пасля расійскай Лютаўскай рэвалюцыі станоўча ўспрыняў працэс палітычнага самавызначэння беларусаў. Падтрымліваў свайго паплечніка Рамана Скірмунта. Пазней падтрымаў у лістападзе 1918 г. ідэю адраджэння ВКЛ пад нямецкай апекай. Пасля захопу ў ліпені 1920 г. бальшавікамі беларускіх земляў назаўсёды змушана пакінуў родныя мясціны і пераехаў у польскі Бзовец. У снежні 1921 г. вырашыў асесці ў Быдгашчы, адышоў ад палітычнай дзейнасці. Выступаў супраць палітыкі паланізацыі беларускамоўнага насельніцтва Польшчы і выказваўся ў падтрымку развіцця беларускамоўнай культуры. Да канца жыцця быў прыхільнікам злучэння разам усіх беларускіх земляў, стварэння польска-беларускай федэрацыі.

Памёр Эдвард Вайніловіч у Быдгашчы 16 чэрвеня 1928 г., пахаваны сябрамі і сваякамі з вялікай пашанай. 11 чэрвеня 2006 г. труна з парэшткамі ўрачыста перапахавана ў Мінску каля Чырвонага касцёла.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Ірыней вырасціў гарбуза-гіганта

16-гадовы Ірыней Бірыцкі жыве ў Гайнаўцы. У верасні гэтага года пачаў вучыцца ў Сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Бельску-Падляшскім. У школу даязджае з Гайнаўкі. Не хоча жыць у інтэрнаце. Цягне яго ў вёску. Шмат часу праводзіць у дзядулі і бабулі Юрыя і Аляксандры Ляшчынскіх у Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны. Ён ужо другі год займаецца вырошчваннем вялікай агародніны — перш-наперш вялікіх гарбузоў і памідораў. Да гэтага мае вялікую схільнасць, захапленне. А калі так, то мае ў гэтай галіне не абы-якія поспехі. Цешыць гэта ягоных бацькоў. Агародніну вырошчвае на палетку ў Новым Ляўкове. У наступным годзе з гэтай мэтай паставіць — мае такі цвёрды намер — тунель з фальгі для вырошчвання агародніны.

Сёлета Ірыней вырасціў аднаго гарбуза-велікана вагою больш за паўтоны (520 кілаграмаў) ды другога 150-кілаграмовага. У мінулым годзе яго гарбузы важылі: адзін 104 кг і другі 64 кг. Насенне віду гарбуз *Atlantic Gigant* гадоўца мае з далёкай Канады. Юнак пачаў вырошчваць яшчэ і чырвоныя памідоры. Сёлета адзін яго



памідор-пястун важыў 1,20 кг. Зараз Ірыней Бірыцкі з'яўляецца членам Польскага таварыства гадоўцаў вялікай агародніны. Плануе вырасціць гарбуза вагою сама менш 700 кілаграмаў (у Польшчы гадоўца вырасціў гарбуза вагою 760 кілаграмаў). Ірынею жадаем вытрымкі і поспехаў у абраным накірунку.

❖Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Аб медыцынскай дапамозе

У Чаромхаўскай амбулаторыі працуюць сямейны лекар Пшэмыслаў Паўлючук і тры акушэркі. Лекар абслугоўвуе тэрыторыю Чаромхаўскай і часткова Кляшчэлеўскай і Нурэцкай гмін. У мінулым годзе сямейны лекар прыняў 10 677 пацыентаў, што ў сярэднім складае 889 чалавек штомесяц. Сёлета ў першым квартале было прынятых 2915 пацыентаў (971 штомесяц). Амбулаторыя ў Чаромсе выдала ў мінулым годзе 851 накіраванне да спецыялістаў, а ў першым квартале гэтага года — 279. У Гайнаўскім шпіталі нарадзілася ў мінулым годзе 275 дзетак, сёлета ад студзеня па 31 траўня — 149 дзетак.

На рэабілітацыйнае аддзяленне ў Гайнаўскую бальніцу прыходзіцца чакаць у чарзе ад аднаго да паўтара месяца. З неўралагічнымі і кардыялагічнымі захворваннямі прымаюць без чаргі. На гэтым жа аддзяленні ў мінулым годзе шпіталізацыю праходзіў 391 пацыент, у гэтым годзе ад студзеня да 31 траўня было прынятых 194 чалавек.

**(УС)**




# 15.10 — 21.10

**(22.03. — 20.04.)** Амур возьме цябе на прыцэл! У старой пары вяртанне гарачай атмасферы. Асабліва 18-20.10. можаш закахацца. 15-19.10. не прымушай сябе да актыўнасці і пазбягай рызыкі. Прыцягнеш цікавых людзей. Хораша задбаеш аб інтэр'ер хаты. На рабоце пакуль не парывайся на новыя мерапрыемствы, вучыся, здабывай інфармацыі. 15-17.10. парабі найважнейшыя пакупкі.

**(21.04. — 21.05.)** Добрая форма. Канкурэнцыя цябе не апярэдзіць. Здабудзеш тое, што хочаш. Паробіш парадкі ў сябе дома і на працы, паладзіш тое, што можна, кепскае выкінеш. Твае дзеянні будуць адважныя і рашучыя. Не слухай добрых парад, асабліва знаёмых і суседзяў, якія ў апошні час пачалі вельмі цікавіцца тваімі справамі. Не ўзлазь на крывую драбіну! 17-19.10. заплануеш доўгую інвестыцыю ці зробіш карысны інтарэс. Калі вядзеш свой бізнес, бяры нетыповыя прапановы — добра на гэтым заробіш.

**(22.05. — 22.06.)** Добры настрой, мноства цікавых задум. 18-20.10. хтось убачыць у табе патэнцыял і паможа табе ў кар'еры. Будзеш упарадкоўваць сваё асабістае жыццё. Сустракайся з сябрамі. Яшчэ 15 і 16.10. шлі свае Сі-Ві, вучыся на курсах, шукай новых прапаноў. Практыкуйся фізічна ў групе.

**(23.06. — 23.07.)** Паправіцца атмасфера дома і на працы. Не бараніся перад новым пачуццём, але захавай прытым развагу, каб не аддаць сэрца нявартай гэтага асобе. 14-16.10. не дапускай да канфліктаў, асабліва на рабоце. 17-19.10. чакае цябе мілы сюрпрыз ад новых знаёмых, якія ўвойдуць у тваё жыццё. Не адмаўляйся ад выезду! Абавязкі на працы зоймуць цябе без рэшты, можаш разлічваць на добрае слова шэфа і падтрымку супрацоўнікаў. Шукаючы працы, не заламіся адмовай 18-20.10, спрабуй яшчэ раз найлепш паміж 24-28.10.

**(24.07. — 23.08.)** Рост амбітнасці. Знойдзеш сябе ў кожнай кампаніі. 18-20.10. можаш сустрэць сваю братнюю душу. Справішся з найцяжэйшымі абавязкамі. Самотныя Львы не павінны адмаўляцца ад імпрэз — мала што будуць іх аздобай, але могуць пазнаёміцца з кімсьці, хто будзе мець усе добрыя рысы былога кахання, а ані адной кепскай! Будзе спакуса, каб развітацца з цэлай зарплатай, асабліва ў Львоў з першай дэкады. На горшы настрой найлепшая добрая кампанія!

**(24.08. — 23.09.)** Хуткі тэмп жыцця. Акалічнасці і людзі спрыяюць табе. Бывай у новых месцах, не вылежвайся перад тэлевізарам. Наладзіш новыя кантакты, асабліва карысныя будуць са старэйшымі ад цябе. Час спрыяе немалым заробкам. На працы шыкуецца павышэнне. Будзеш самастойны і бескампрамісны. Але нервы — як на мінным полі. 14-16.10. будзеш капрызны, незадаволены. 17-19.10. шанцы на вялікае каханне або прафесійны поспех.

**(24.09. — 23.10.)** Крутыя сцежкі выпрастаюцца. На тваю карысць працуюць усе зоркі! Гэта ты будзеш вызначаць трэнды! 14-18.10 станеш ментарам і аўтарытэтам. Але 14-16.10. можаш атрымаць ненайлепшую вестку ад сям'і.

**(24.10. — 22.11.)** Упарадкуй свае справы і адносіны. Але адпусці празмерны лік абавязкаў, адпачывай. Можа паменшыцца твой давер да партнёра, які будзе гаварыць адно, а рабіць другое. Можаш трапіць таксама на кагось, хто не будзе ў адносінах да цябе добрасумленны, але ў гэты раз схопіш яго за руку. Калі ты нарадзіўся ў першыя дні знаку, можаш пазнаёміцца з кімсьці, хто неўзабаве адыграе вялікую ролю ў тваім жыцці. Мерапрыемствы пачатыя 17-19.10. вельмі прыгожа развінуцца.

**(23.11. — 22.12.)** Усё і ўсе табе спрыяюць, адчыняцца закрытыя дзверы. Прыспешацца твае справы. 14-16.10. пазбягай цяжкіх размоў з нелюбімымі людзьмі. 14.10. можа распаліцца цяплейшае полымя ў сэрцы. Пасля 17.10. на працы не спяшайся з рашэннямі. 18-20.10. не праваронь нагоды для наладжання сімпатычнага знаёмства.

**(23.12. — 20.01.)** Узрастуць твае ўплывы ў сям'і і прафесійныя амбіцыі. Павялічыцца ахвота да вучобы і падарожжаў. Пары са стажам могуць перажываць нялёгкія хвіліны. Зменіцца радыкальна сітуацыя на працы; калі ты наракаў на шэфа, цешся. Нізкі ціск, прыйдзецца папіць кавы, калі табе можна.

**(21.01. — 19.02.)** Пабагацее спісак тваіх знаёмых. Адкрыюцца твае новыя таленты і будзеш мець папулярнасць. Пераканаеш да сябе кожнага. 18-20.10. пры маладзіку Месяца — спрыянне закаханым. 14-16.10. любое глупства вывядзе цябе з раўнавагі. 17-21.10. будзеш схільны да бунту супраць шэфа, прынцыпаў і аўтарытэтаў.

**(20.02. — 21.03.)** Крыху замяшання ў пачуццях, але к дабру. Запрацуеш на павышэнне. Пасля 17.10. закоціш рукавы і пераможаш ляноту — найбольшую перашкоду да поспеху. 17-19.10. чакае цябе цудоўная навіна. Стрэсу пазбудзешся ў парку, на полі, у лесе. Пі сок з чорнай бузіны.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

Адгаданка Адгаданка

**1.** Пётр Міронавіч, кіраўнік Беларусі ў 1965-1980 гадах, **2.** прыстасаванне для абливання цела струменьчыкамі вады ў ... падушцы, **3.** сустаў у назе, **4.** пасля панядзелка, **5.** марскія хвалі, якія б'юць у бераг, **6.** вандроўнік па дарогах, **7.** горы з Эльбрусам і Казбекам, **8.** лёгкая выязная павозка на рысорах, у якой ... лама, **9.** мясцовасць за Індурай, у якой нарадзіўся Яўхім Карскі, **10.** „Чарнобыльская ...” Святланы Алексіевіч, **11.** селянін неахвотны калгасу.

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | | 2 | 3 | | | | | 4 | |
| | 5 | | | | | | | 6 | | 7 | | | |
| | | | 8 | | | | | | 9 | | 10 | | |
| | | | | 11 | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 39 нумара**

Вуха, жанчына, жупан, зала, зеніт, лак, Лех, печ.

Рашэнне: **На Узвіжанне халат з плеч, а кажух на плечы**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.






# Добрыя словы, родныя песні



Парк Плянты ў Беластоку ў чарговы раз стаў месцам артыстычных сустрэч прадстаўнікоў беларусаў Падляшша і польскіх суполак Гарадзеншчыны. 17 верасня 2017 года прайшоў XXIV фестываль Артыстычныя сустрэчы «Беласток-Гродна», на якім зноў сустрэліся беларускія і польскія калектывы, каб сябраваць, дэманстраваць свае таленты, дарыць добрыя пачуцці, з задавальненнем выконваць песні, танцы і музыку. Фестываль стаў вынікам цесных сувязей і ўзаемаадносін жыхароў памежных рэгіёнаў дзвюх краін. Сяброўства Гродна з Беластокам праверана часам. Сумесна з польскімі партнёрамі распрацаваны і рэалізуецца шэраг праектаў, у тым ліку і ў культурнай сферы. Выдатным прыкладам культурнага праекта даўно з'яўляецца фестываль Артыстычныя сустрэчы «Гродна-Беласток». Традыцыйна на фестывалі былі прадстаўлены калектывы розных напрамкаў і ўзростаў. Усяго ў канцэрце прынялі ўдзел 22 калектывы, якія выканалі польскія і беларускія песні і кампазіцыі.

Яшчэ задоўга да пачатку канцэртнай праграмы ў парку, можна было ўбачыць шмат людзей. Мясцовыя жыхары і госці свята з задавальненнем разглядалі і набывалі вырабы і самаробныя сувеніры народных рамеснікаў, кніжныя выданні. Самі артысты, аблюбаваўшы ўтульныя закуткі і палянкі, праводзілі апошнія рэпетыцыі, стварыўшы тым самым сапраўднае шматгалоссе ў парку...

Удзельнікаў фестывалю са сцэны віталі намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама Сяргей Шумейка з беларускага боку і намеснік старшыні Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку Васіль Сегень.

— Ад імя БГКТ я вельмі рады вітаць вас тут у Беластоку на святе беларускай і польскай песні, — сказаў Васіль Сегень. — Гэта выдатная нагода, каб убачыць культуру палякаў, якія жывуць у Беларусі і паказаць нам, беларусам у Польшчы, як выглядае наша родная культура. Гэта вельмі важны фактар у развіцці абодвух народаў, якія жывуць паабапал мяжы. Вітаю ўсіх, хто сюды прыйшоў, не пабаяўся не вельмі спрыяльнага надвор'я. Ніякія дажджы ні ўраганы не памяшаюць нам любіць тое, што для нас самае дарагое — нашу родную мову, культуру, гісторыю нашу беларускасць тут у нас у Польшчы, на Падляшшы. На сцэне ў парку Плянты выступаюць прадстаўнікі беларускай меншасці на Падляшшы і польскія калектывы з Беларусі. Фестываль адбываецца папераменна ў Беластоку і Гародні. Галоўная задума — паказаць беларускую культуру Польшчы беларусам і палякам Беларусі, і нашай публіцы — у першую чаргу беларусам Польшчы — польскую культуру на Гарадзеншчыне, на Беларусі. Вось гэтая ідэя здзяйсняецца ўжо 24 год і рэалізуецца на сцэне.

Для ўдзельнікаў і гасцей фестывалю працавала выстава народных майстрых Беласточчыны, кніжная экспазіцыя беларускіх аўтараў з Польшчы. Жадаючыя маглі набыць сувенір на памяць аб свяце.

Па завяршэнні фестывалю традыцыйна ўсімі выканаўцамі і гледачамі былі выкананы песні «Piękna nasza Polska cała» і «Люблю наш край».

— Так ужо гістарычна склалася, што за кошт суседства беларускага і польскага народаў многае змяшалася ў песнях, матывах і ёсць творы, якія добра вядомыя адначасова і ў Польшчы, і ў Беларусі. Але ў той жа час калектывы імкнуцца кожны раз знайсці новыя аўтэнтычныя песні і танцы, якія характарызуюць культурныя традыцыі Падляшша і Гарадзеншчыны.

Ансамблю «Гудскі гармонік», які ўжо трэці раз запар прыязджае менавіта ў Беласток, было даверана месца аднаго з хэдлайнераў фестывалю. Калектыў з Ліды выканаў дзве польскія народныя песні «W moim ogródeczku» і «Gdzie pojedziesz, Jasieńku» ў апрацоўцы кіраўніка Андрэя Колышка. Своеасаблівую рысу фестывалю падвялі ўсе ўдзельнікі, якія ледзь змясціўшыся на сцэне, праспявалі песні «Piękna nasza Polska cała» і «Люблю наш край», якія сталі за столькі гадоў гімнамі мерапрыемства.

— Нягледзячы на восеньскае вільготнае надвор'е, усё ж такі вельмі прыемна пасля выступлення ўбачыць шчаслівыя тэвары і пачуць словы падзякі і на беларускай, і на польскай мовах. Напэўна дзеля такіх момантаў і хочацца прыязджаць на такія фэсты зноў і зноў! — сказаў спявак са Шчучына Тадэвуш Федзюк.

На пачатку прагучаў верш нашага найстарэйшага паэта Віктара Шведа пра сяброўства. Пра добрыя словы «калі ласка» і «bardzo proszę". Але спадар Віктар, які заўсёды падпісвае свае кнігі для дзяцей і дарослых на розных мерапрыемствах «пад хмаркай» і вельмі цешыцца, калі яго родныя словы гучаць са сцэны, занямог і не мог прыйсці на свята. Бо і тыя хмаркі зацягнулі неба, і сыпаў шчодры дождж над усім Беластокам і нават Падляшшам і Гарадзеншчынай. Але над беластоцкімі Плянтамі, дзе ў 15:00 пачалося польска-беларускае свята, не ўпала ані адна кропля ад 14:00 да 18:20. Гэта ўжо па заказе мабыць нейкай белавежскай шаптухі.

— Убачыш сонечны прамень, за ім і дня таемны вобраз. І прывітанне добры дзень, што значыць па-польску «дзень добры», — дадалі вядучыя са сцэны. — І беларусаў, і палякаў заўжды аднолькава хвалюе і дарагое слова «дзякуй» і непаўторнае «dziękuję».

— Наш фестываль спрыяе развіццю беларускай культурнай спадчыны, — заявіў Сяргей Шумейка. — На Беласточчыне і Гарадзеншчыне. Наогул неабходна адзначыць цудоўную атмасферу фестывалю, якая напоўнена шчырасцю, адкрытасцю, сяброўствам. Такія святы з'яўляюцца выдатнай магчымасцю для сустрэч і зносін, абмену вопытам і творчасцю сярод як тых калектываў, якія не ўпершыню прыязджаюць сюды, так і новых удзельнікаў канцэрта. Творчыя калектывы падаравалі гледачам яскравыя выступленні і добры настрой, а ў свой адрас атрымалі цёплыя ўражанні і шчырыя апладысменты.

— Дзяньдобры, каханыя дзяўчынкі! — вітае не маладзейшых за яго знаёмых спявачак спявак са Шчучына. — Я са Шчучына не мазавецкага, а гродзенскага. Тадэвуш Федзюк з «Праменя». А дзяўчынка — Люба Гаўрылюк з «Рэчанькі» з Козлік.

— Слухайтэ, яшчэ быў раней такі файны пан, з Ліды, — цікавіцца Люба. — Тут заўсёды ёсць нагода пазнаёміцца з сябрам з замежных калектываў, разам паспяваць.

— А то «Хабры» з Ліды, кажа Тадэвуш. — І танцуюць, і спяваюць. Мы заўша спаткаемся, або ў Гродне, або ў Беластоку.

— Так, ужо старыя знаёмыя. Тут белыя валасы, і тут... Люблю і туды заехаць, зусім як да радзіны. Таму нас песня трымае. А сёння мала тут людзей. Казалі, што мае ў шаснаццатай пачацца лівень. Эй, не бачыў пан, колькі народу было на сёлетнім свяце беларускай культуры — людзі тоўпіліся аж да вуліцы Міцкевіча. Можа, калі пачнуць іграць — бу-бу-бу, то хмары разгоняць?

Старшыня сейміка Падляшскага ваяводства Яраслаў Дважанскі ўручыў Яну Сычэўскаму найвышэйшую падляшскую адзнаку — Ганаровую адзнаку Падляшскага ваяводства — самаўрадавую адзнаку, якая надаецца асобам і арганізацыям, якія сваёй публічнай, прафесійнай і грамадскай дзейнасцю выдатна спрычыніліся да развіцця і прасоўвання Падляшскага ваяводства.

— Хачу падзякаваць за адзнаку ад маршалка, якая не толькі для мяне самога, — сказаў Ян Сычэўскі. — Гэта прыкмечана беларуская культура і яе грамадзянскае правы да нашага ваяводства, паколькі складае яна істотны фактар развою таго, што называем беларускім этнасам на Беласточчыне і ў Польшчы. Дзякую таксама за падтрымку тых мерапрыемстваў, якія арганізаваліся разам з падляшскім самаўрадам.

Мерапрыемства арганізавана дзякуючы падтрымцы Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі, Падляшскай Маршалкоўскай управы і горада Беластока.

(лук)

ISSN 0546-1960 42